# ЗЬМЕСТ:

*Стар.*



## Практыка нашае працы



## На мясцох



## Бібліографія



## Афіцыйны аддзел



---

КА

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# КААПЭРАЦЫЯ Б. С. С. Р.

**ДВУХТЫДНЕВЫ ОРГАН КААПЭРАЦЫЙНЫХ ЦЭНТРАЎ БССР, БЕЛСЕЛЬБАНКУ і ЎСЕКАБАНКУ**

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ
**АЛ. КРАСОЎСКАГА, ТУМАСА, МАТУСЭВІЧА, Г. ХАСКІНА і А. ФРЫДА**

**ПЕРШЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ**

## № 5

**ЧЭРВЕНЬ**





**МЕНСК — 1929**

# Да міжнароднага дню каапэрации

У гэтым годзе Міжнародны дзень каапэрацыі сьвяткуецца ва ўмовах абвостранае клясавае барацьбы як унутры СССР, так і ў капіталістычных краінах. Супроць хуткага наступу сацыялістычнага будаўніцтва ў СССР вядуць упартую барацьбу кулакі і нэпманы, гандляры, клясава-варожыя нам прыхільнікі буржуазнага ладу. У капіталістычных краінах рэвалюцыйны пралетарыят пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі згрупоўвае свае сілы і аказвае ўпартае супраціўленьне ўладзе капіталу і яго агентам, сацыял-фашыстым і сацыял-здраднікам, якія пасягаюць на даўнейшыя правы рабочая клясы. Капіталістычныя краіны рыхтуюцца да будучых клясавых і нацыянальных боек, рыхтуюцца да барацьбы з пралетарскаю краінаю СССР.

Гэтыя агульныя палітычныя абставіны адбіваюцца і на разьвіцьці каапэрацыйнага руху.

Каапэрацыя ва ўмовах капіталу кіруецца галоўным чынам буржуазнымі і рэфармісцкімі элемэнтамі, яна ў значнай частцы і камплектуецца з гэтых элемэнтаў. У сваёй дзейнасьці і сваёй палітыцы яна фактычна падтрымлівае капіталістычны лад, яго эканоміку і палітыку.

Адсюль і тое становішча, што Міжнародны альянс, ня гледзячы на пратэсты савецкай каапэрацыі, устанавіў сувязь з арганізацыямі міжнароднага капіталу, з установамі Лігі нацый, а адсюль і тое зьявішча, што яны ў сваёй прапагандзе і практычнай гаспадарчай працы ставяць сабе задачу адмяжавацца ад пралетарскай рэвалюцыі, пакарэньня перад капіталістымі, падтрыманьня „міру“ у капіталістычнай гаспадарцы паміж эксплёататарскай буржуазіяй і эксплёатуемай рабочаю клясаю, перашкоджаньня разгортваньню клясавае барацьбы.

У выніку гэтай-ж палітыкі рэфармісцкіх кіраўнікоў і бюракратаў, апаратчыкаў замежнай каапэрацыі, апошняя не разгортвае сваю гаспадарчую чыннасьць, а, наадварот, абмяжоўвае сябе, уступаючы ўсё большае і большае месца гаспадарцы прыватных капіталістаў, дапамагаючы іх разьвіцьцю і ўзмацненьню. Зарубежная каапэрацыя ва многіх краінах гандлюе толькі невялікаю колькасьцю прадуктаў харчаваньня (5-6) і галоўным чынам тымі прадметамі прамысловасьці, якія яна сама вырабляе на сваіх нямногіх прадпрыемствах. Свае грашовыя лішкі зарубежная каапэрацыя зьмяшчае ў акцыях буйных прыватных капіталістычных прадпрыёмстваў. Ва многіх выпадках зарубежныя каапэрацыйныя арганізацыі ўваходзяць акцыянэрамі ў склад капіталістычных сындыкатаў і цалком становяцца падпарадкаванаю часткаю буйнага прыватна-капіталістычнага прадпрыемства, выконваючы яго ролю ў палітыцы цэн, у эксплёатацыі масавага спажыўца. Каапэраваньне ва многіх капіталістычных краінах у апошнія гады паніжаецца. Рабочыя масы, якія ўваходзяць у каапэрацыйныя арганізацыі, усё больш і больш адчуваюць, што гэтыя арганізацыі, якія кіруюцца рэфармістымі, служаць інтарэсам не рабочых, а іх ворагаў-капіталістых. Гэтым тлумачыцца рост уплыву камуністаў у міжнародным каапэрацыйным руху, аднячасова з ростам камуністычнага ўплыву ў палітычным і прафесыянальным руху рабочае клясы.

Клясавая барацьба абвастраецца ўнутры міжнароднага каапэрацыйнага руху з году ў год па меры таго, як яна разгортваецца і абвострываецца ў іншых галінах палітычнага і эканамічнага жыцьця. Кіруючую ролю ў разьвіцьці рэвалюцыйнага руху і рэвалюцыйнага мэтаду працы ў

каапэрацыі займае наша каапэрацыя, якая працуе ва ўмовах пралетарскае дзяржавы. Пляны яе каапэрацыйнае дзейнасьці ўвязваюцца з агульнымі плянамі сацыялістычнага будаўніцтва Савецкае краіны. Рост і разьвіцьцё нашай спажывецкай каапэрацыі ідзе па напрамку ўсё большага ахопу тавараздвароту продукцыі нашае сацыялістычнае прамысловасьці, а таксама і сельскай гаспадаркі. Тэмпы разьвіцьця нашае каапэрацыйнае гаспадаркі далёка абганяюць рост прыватнае гаспадаркі. Сельска-гаспадарчая каaперацыя ў апошні час накіроўвае сваю галоўную ўвагу на большае разьвіцьцё калектыўных форм гаспадаркі, уцягваючы да іх ўсё большыя колы бядняцкіх і серадняцкіх мас. Каапэрацыя на вёсцы займае першачарговае месца ў справе ўздыму тэхнічнае базы сельскае гаспадаркі, яе ўраджайнасьці і прадукцыйнасьці, яе перабудовы на сацыялістычны лад, уздыму дробных бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак на базе іх вытворчага каапэраваньня.

Саматужная каапэрацыя арганізуе калектыўныя формы дробнага промыслу, уцягваючы ў вытворчую каапэрацыйную дзейнасьць усё большыя бядняцка-серадняцкія масы працоўных. Гэтакія-ж задачы выконвае і каапэрацыя інвалідаў вайны і працы.

Жыльлёвая каапэрацыя будуе на каапэрацыйных пачатках жыльлёвую плошчу і прывучае шырокія масы да форм будаўніцтва новага калектыўнага быту.

Згуртоўваючыся вакол каапэрацыйных арганізацый пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі, бядняцкія і серадняцкія масы выціскаюць кулака, прыватніка і шкодніка, забясьпечваючы гэтым ўсё большы тэмп перамогі сацыялізму над капіталістычнымі элемэнтамі

У сваёй дзейнасьці каапэрацыя абапіраецца на ініцыятыве працоўных мас і на ўсебаковай дапамозе пралетарскай дзяржаве.

У гэтых умовах мы маем такія дасягненьні: 1928-29 г. паказвае па СССР рост плянавых зарыхтовак сельска-гаспадарчай каапэрацыі супроць 1927-28 г. на 43 проц. Валавы зварот па збыту з 3,172 млн. руб. у 1927-28 годзе ўзрастае да 4,510 міл. рублёў у 1928-29 годзе. Роля каапэрацыі пры гэтым усе больш павялічваецца. Да канца 1932-33 г. кантрактацыя па пляну павінна ахапіць 100 проц. таварнае прадукцыі тэхнічных культур і 70 проц. зернявых. Кантрактацыя мае вялікае значэньне ў справе правядзеньня пэўнага тэхнічнага аграмінімуму, у справе аб'яднаньня вёсак і пасёлкаў для сумеснага выкананьня кантракту на падставе вытворчага аб'яднаньня. Забеспячальная дзейнасьць с.-г. каапэрацыі ўзрасла з 1,300 млн. руб. у 1927-28 годзе да 2,030 млн. руб. у 1928-29 годзе, г. зн. на 55 проц., а ў 1932-33 годзе яна павінна дайсьці да сумы каля 4 млн. рублёў.

На фоне такога шпаркага разьвіцьця гаспадарчай дзейнасьці мы бачым за апошнія гады вялізарны рух каапэраваньня.

Агульны лік першапачатковых с.-г. аб'яднаньняў быў у 1926-27 г.—31.630, у 1927-28 г.—56.435, калгасаў было у 1926-27 г.—15.667, а ў 1927-28 г.—32.506. У канцы 1932-33 г. будзе аб'яднана 85 проц. сялянскіх гаспадарак, альбо 23,4 млн. сялян. двароў з агульнага ліку 27 млн. У калгасы будзе аб'яднана 3,6 млн. сялянскіх сямей, альбо каля 20 млн. сельскага насельніцтва, каля 25 млн. гэктараў плошчы. У прасьцейшых вытворчых аб'яднаньнях к канцу 1932-33 г. будзе ўцягнута ня менш 25 проц. усіх сялянскіх гаспадарак. Па БССР насельніцтва ў калгасах узрасьце да канца 1932-33 г. больш чым да 600.000 чалавек, альбо каля 120.000 сямей.

Агульная колькасьць калектыўных і каапэрацыйных аб'яднаньняў па с.-г. каапэрацыі ўзрасьце па БССР з 3.285 до 16.000 да канца пяцігодзьдзя.

Такі зрух у разьвіцьці с.-г. каапэрацыі павінен сапраўды перарабіць твар нашае вёскі, падвышаючы яе да высокае ступені сацыялістычнае культуры.

Вытворчая саматужна-прамысловая каапэрацыя аб'яднала па СССР у 1927-28 г. каля 16 проц. саматужнікаў, у 28-29 г.—каля 21 проц. У працягу пяцігодкі каапэраваньне саматужнага насельніцтва ўзрасьце ў 3—4 разы, а яе прадукцыя павялічыцца с 1,200 млн. рубл. у 1927-28 г. да 4,800 млн. рублёў у 1932-33 годзе. Па БССР каапэраваньне ў саматужна-прамысловых арцелях і таварыствах ідзе шпаркім тэмпам і да канца пяцігодкі будзе каля 60.000 сяброў саматужна-прамысловай каапэрацыі з прадукцыяй каля 160 млн. рублёў.

Разьвіцьцё сельска-гаспадарчых і саматужна-прамысловых калектываў падыме эканамічны і сацыяльна-культурны ўзровень мястэчка і вёскі, яшчэ больш увязваючы з агульным сацыялістычным будаўніцтвам краіны.

Спажывецкая каапэрацыя ўжо ў сучасны момант ахапляе па СССР больш 23 млн. пайшчыкаў. Пяцігадовы плян вызначае падняць лік пайшчыкаў больш чым да 48 млн. Пры гэтым рабочыя, беднякі і серадня́кі будуць каапэраваны на 100 проц. Па БССР лік пайшчыкаў па спажывецкай сыстэме падымаецца з 640 тысяч на 1/X 1928 г. да 1.248 тыс. да канца пяцігодзьдзя.

Удзельная вага спажыўсыстэмы з году ў год узрастае і ў сучасны момант па дробнаму звароту займае 55 проц. па СССР і каля 60 проц. у БССР. Сыстэма ахапляе ўсё больш і больш бюджэт працоўнага спажыўца, паляпшае мэтады абслугоўваньня ня толькі яго спажывецкіх, але і часткі яго культурных і бытавых патрэб.

Разьвіцьцё каапэрацыйнага будаўніцтва ва ўсіх яго відах патрабуе шырокага разгортваньня актыўнасьці рабочых, бядняцка-серадняцкіх мас працоўных гораду і вёскі вакол задач, якія стаяць перад каапэрацыяй: барацьба з кулаком, нэпманам, папом, ксяндзом і равінам, сыстэматычнае і дастатковае ўзмацненьне грашовае базы каапэрацыйных сыстэм, уздым тэхнічнае базы, іх вытворчае і гандлёвае дзейнасьці, уздым дысцыпліны, інтэнсыўнасьці і прадукцыйнасьці працы, разьвіцьцё культурных мерапрыемстваў каапэрацыйных арганізацый, уцягненьне новых шырокіх колаў пайшчыкаў з рабочых, батракоў, беднякоў і серадня́коў, разгортваньне кантролю мас над дзейнасьцю каапэрацыйных арганізацый.

У міжнародны дзень каапэрацыі мы ўсе скажам, што гэтыя задачы намі будуць выкананы.

У гэты-ж дзень мы будзем пасылаць братэрскі прывет працоўным усіх краін з поўнаю вераю ў посьпехі пралетарскае барацьбы за камунізм ва ўсіх краінах. Мы скажам:

**Няхай жыве пралетарская рэвалюцыйная каапэрацыя!**

**Няхай жыве міжнародная салідарнасьць працоўных пад сьцягам камінтэрну!**

**За перамогу пралетарскае дыктатуры і сацыялістычнага ладу ўва ўсіх краінах!**

---

Г. Хаскін

# Спажывецкая каапэрацыя да Міжнароднага дню каапэрацыі

I

Значэньне сьвята Міжнароднага дню каапэрацыі вялізарнае. У гэты дзень кожная каапэрацыйная арганізацыя падлічвае вынікі свае працы, правярае свае дасягненьні і недахопы і вызначае шляхі далейшага разьвіцьця. Асабліва важна, што працоўныя, члены каапэратываў, пры падліку вынікаў працы ў МДК параўноўваюць свае дасягненьні ня толькі з дасягненьнямі асобных раёнаў, але і з дасягненьнямі каапэрацыйных арганізацый іншых краін. Гэтыя параўнаньні даюць магчымасьць шырокім працоўным масам, ня толькі нашай краіны, але і капіталістычных краін, лішні раз упэўніцца, наколькі розныя шляхі і задачы, якія стаяць перад савецкай каапэрацыяй, якая надае сабою неразрыўную частку ўсяе сацыялістычнае гаспадаркі, зьяўляючыся актыўным памочнікам савецкай улады ў яе вялізарнай рабоце па перабудове краіны на сацыялістычных падставах, цьвёрда стаючы на варце інтарэсаў працоўных, ні ў якай меры не адлучаючы сваіх задач ад задач рабочае клясы і працоўнага сялянства.

У каапэрацыі капіталістычных краін, дзе ўва ўладзе над ёю стаяць яшчэ буржуазныя і згодніцкія правадыры, якія ўвесь час прагнуцца, каб памірыць працоўных з капіталістымі, усяляк імкнуцца пагасіць рэвалюцыйныя імкненьні рабочае клясы і бяднейшага сялянства. Гэтыя буржуазныя і згодніцкія правадыры прапаведваюць ідэю такое каапэрацыі, якая не павінна прымаць удзелу ў палітычнай барацьбе працоўных за сваё вызваленьне ад уціску капіталу.

Адсюль кожны рабочы, селянін, актыўны ўдзельнік будаўніцтва савецкай каапэрацыі, павінен добра ведаць, што ў нас, у краіне саветаў, і ў капіталістычных краінах зусім па-рознаму разумеюць задачы каапэрацыі, па-рознаму сьвяткуюць і Міжнародны дзень каапэрацыі. Вось чаму ў буржуазных краінах МДК ня мае пакуль яшчэ таго вялізарнага рэвалюцыйнага значэньня, якое мы надаём гэтаму сьвяту ў нас.

Савецкая каапэрацыя, якая працуе і разьвіваецца пад правільным кіраўніцтвам камуністычнае партыі і рабочае клясы, мае вялізарныя дасягненьні. Яе ідэямі і рэвалюцыйнаю роляю ўсё больш пачынаюць цікавіцца каапэраваныя масы рабочых і сялян буржуазнага Захаду, бачачы ў рабоце савецкай каапэрацыі ўзор правільнага разуменьня задач каапэрацыі. Баючыся, каб ідэі савецкай каапэрацыі не прасякнулі ў шырокія масы працоўных буржуазных краін, кіраўнікі замежных каапэратываў, якія працуюць у інтарэсах захаваньня панаваньня капіталу, прымаюць усялякія меры да памяншэньня ўплыву нашых прадстаўнікоў у Міжнародным каапэрацыйным аб'яднаньни (Альянсе).

Пагэтаму значэньне Міжнароднага дню каапэрацыі, як змаганьне пралетарыяту за сваё вызваленьне, мае першачарговую важнасьць.

II

Якія задачы стаяць перад нашымі каапэрацыйнымі арганізацыямі, і на чым мы павінны канцэнтраваць сваю ўвагу ў Міжнародны дзень каапэрацыі?

ЦК КП(б)Б у сваёй пастанове ад 2 чэрвеня па гэтаму пытаньню даў нам зусім зразумелыя і канкрэтныя дырэктывы, якія поўнасьцю даюць

адказ на вышэйзакранутае пытаньне. У адпаведнасьці з гэтымі дырэктывамі праца ў гэты дзень павінна праходзіць пад наступнымі лёзунгамі:

1) шырокай папулярызацыі пастаноў XVI партканфэрэнцыі, асабліва ў галіне каапэрацыйнага будаўніцтва, сацыялістычнай рэканструкцыі народнае гаспадаркі, растлумачваючы пераадольваемыя намі цяжкасьці;

2) праверкі і ўвязкі работы каапэрацыі па індустрыялізацыі краіны і калектывізацыі сельскае гаспадаркі, згрунтоўваючы ўвагу і сілы на шырокім разьвіцьці масавых форм вытворчага каапэраваньня сельскае гаспадаркі і арганізацыі буйных калектыўных гаспадарак, каапэраваньні саматужнае прамысловасьці і больш рашучым наступе на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі;

3) далейшага пашырэньня крытыкі і самакрытыкі, прыцягваючы шырокія пласты працоўных да справы паляпшэньня працы каапэрацыйных арганізацый на падставе далейшага разгортваньня сацыялістычнага спаборніцтва і рашучай барацьбы з бюракратызмам у каапэрацыйным апараце і на яшчэ цэлы шэраг другіх момантаў, як поўнае каапэраваньне беднаты, папулярызацыя і правядзеньне клясава-дыфэрэнцыраванага паю, пашырэньне масавае і культурнае работы і інш.

Такім чынам перад усімі арганізацыямі каапэрацыі, яе працаўнікамі і каапэраванымі масамі рабочых і сялян гэтыя асноўныя ўстаноўкі павінны быць рашучымі пры правядзеньні сьвяткаваньня Міжнароднага дню каапэрацыі. Наша задача—яшчэ раз з усёю сілаю падкрэсьліць, што каапэрацыя як ва ўсім Саюзе, так і ў нас, у БССР, становіцца моцным рычагом сацыялістычнага будаўніцтва, не запамятваючы ні на водную хвіліну словаў тав. ЛЕНІНА: „Каапэрацыя ў нашых умовах скрозь ды радам супадае з сацыялізмам".

III

Якія вынікі нашае працы па лініі спажывецкай каапэрацыі? Раней усяго трэба адзначыць, што каапэрацыя расла ў поўнай адпаведнасьці з агульным бурным ростам усяе народнае гаспадаркі, і яе посьпехі ўва ўсіх на ваччу. Прывяду некалькі лічбаў па спажывецкай каапэрацыі ўсяго Саюзу. Да гэтага часу мы маем каля 27 мільёнаў пайшчыкаў, з іх на вёсцы каля 17 мільёнаў. Звароты перасягнулі за 15 мільярдаў рублёў. Сярэдні аплочаны пай па вёсцы каля 9 рублёў і па гораду каля 12 рублёў. Праз каапэрацыю цяпер праходзіць да спажыўца-рабочага і селяніна каля 70% усіх тавараў і прадуктаў, якія зварочваюцца ў краіне.

Посьпехі спажывецкае каапэрацыі ў БССР роўналеглы посьпехам па ўсяму Савецкаму Саюзу. Так, напрыклад, агульная колькасьць пайшчыкаў каля 800000 чалавек, з іх па гораду больш 200000 і па вёсцы 550000 чалавек. Процант каапэраваньня па гораду членаў прафсаюзаў каля 85% і па вёсцы каля 62% сялянскіх гаспадарак. Сярэдні пай па вёсцы мы маем каля 8 рублёў і па гораду 11 рублёў. Каапэравана беднаты і батрацтва каля 65%. Звароты сыстэмы вырасьлі за апошні год на 429 м. руб., па вясковаму звароту складаюць 300 м. р. Як і па ўсяму Саюзу, так і па БССР хуткі рост каапэрацыі выцясняў прыватніка са сфэры тавараабароту. На сёньняшні дзень ён займае па вопту каля 7% і па розьніцы каля 20%.

Спажывецкая каапэрацыя зараз зьяўляецца ня толькі асноўным, але па цэламу шэрагу тавараў адзіным праваднікам тавараў да насельніцтва.

У галіне культурна-асьветнае работы мы маем таксама цэлы *шэраг значных* дасягненьняў. Пачынае шырока разгортвацца работа з кнігаю, кіно, радыё. Разгортваюцца бытавыя ўстановы. Шырока пастаўлена курсавая работа. Створаны шырокія кадры актывістаў з рабочых і сялян. Адсюль зразумела, чаму цяпер шырокія масы рабочых і сялян так жыва цікавяцца каапэрацыйнаю працаю, бо ад таго, як добра ці дрэнна працуе спажывецкая каапэрацыя, цяпер залежыць матар'яльны дабрабыт і рабочага і селяніна, так як здавальненьне ўсіх спажывецкіх патрэб працоўных ідзе ў нас праз спажывецкія таварыствы.

Пры падліку нашых дасягненьняў мы павінны не запамятаць, што посьпехі ўсяго нашага сацыялістычнага буданіцтва як ў горадзе, так і асабліва на вёсцы выклікаюць раз'юшанае супраціўленьне з боку нашых клясавых ворагаў. І ва ўмовах абвостранае зараз на гэтым грунце клясавае барацьбы, асабліва на вёсцы, рашаючую роль грае чоткая клясавая лінія каапэрацыйных арганізацый. Уся наша работа павінна быць накіравана на зьдзейсьненьне задач індустрыялізацыі краіны, калектывізацыю сельскае гаспадаркі, на ўмацаваньне кіруючае ролі рабочае клясы, на ўмацаваньне саюзу бедняка з серадняком.

## IV

Разам з посьпехамі і дасягненьямі, якія мы маем і якія мы адзначаем у Міжнародны дзень каапэрацыі, мы павінны таксама з ўсёю сілаю падкрэсьліць дужа многа і вялікіх недахопаў у нашай рабоце, асноўныя з іх: у каапэрацыйнай рабоце ўсё яшчэ мала грамадзкасьці, органы масавага грамадзкага кантролю працуюць яшчэ дрэнна. Мае яшчэ месца такое зло, як растрата; каапэратывы яшчэ дрэнна, а часта проста нядбайна адносяцца да культурнага абслугоўваньня сваіх членаў. Недастаткова сетка нашых каапэрацыйных крам. Мы маем выпадак падвышэньня цэн асобнай каапэрацыйнай арганізацыяй на прадметы шырокага спажываньня.

Вялікі недахват у нашай рабоце—гэта слабы прыток сродкаў ад насельніцтва, дзякуючы чаму нам даводзіцца яшчэ значныя сродкі дзяржавы ў 2—3 разы большыя за свае трымаць у звароце нашых каапэрацыйных арганізацый. Адсутнічае яшчэ дастатковая чоткасьць у рабоце, наліччa чужых элемэнтаў у нашым каапэрацыйным апараце, якія часта скрыўляюць клясавую лінію ў рабоце, наяўнасьць справы ясна выказаных апартуністычных настрояў у асобных працаўнікоў, каапэрацыйных арганізацыях і г. д.

## V

Асноўнымі задачамі на далейшы час у асноўным зьяўляюцца наступныя:

Узмацніць каапэраваньне беднаты і батрацтва, каб сапраўды было забясьпечана 100-проц. каапэраваньне ў бліжэйшыя $1^{1}/_{2}$ гады беднаты і батрацтва, а таксама і калгасаў. Трэба дабіцца большага ўдзелу бядняцка-серадняцкіх і батрацкіх мас у каапэрацыйнай рабоце, рашуча ўзмацніць работу органаў грамадзкага і масавага кантролю (крамавыя і рэвізійныя камісіі).

Барацьба з кулацкім уплывам на работу каапэрацыйных арганізацый не павінна ні на адну хвіліну слабець, а, наадварот, трэба са ўсёй рашучасьцю вясьці бязьлітасную барацьбу роўным чынам і з тымі

правымі апартуністычнымі настроямі і прымірэнцкімі адносінамі да іх, якія маюць месца ў нашых каапэрацыйных арганізацыях. Трэба больш, чым да гэтага часу, тлумачыць і праводзіць клясавы, розны для розных груп насельніцтва дыфэрэнцыраваны пай.

Пытаньні далейшага ўзмацаваньня грашовага становішча сыстэмы павінны ня выходзіць з поля зроку каапэрацыйных арганізацый, адсюль паянакапленьні, уклады павінны прымаць больш інтэнсыўны характар, чым да гэтага часу.

У інтарэсах далейшага больш таннага абслугоўваньня спажыўца нам трэба яшчэ з большай цьвёрдасьцю і рашучасьцю скарачаць выдаткі на падставе рацыяналізацыі каапэрацыйнага апарату. Мы павінны перасекчы ўсялякія спробы з боку асобных каапэрацыйных арганізацый падвышаць цэны, парушаючы тым самым дырэктывы партыі і ўраду аб зьніжэньні цэн. Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на ачыстку каапэрацыйнага апарату ад чужых, варожых і бюракратычных элемэнтаў, якія уносяць вялікую шкоду ў работу каапэрацыі. Такія элемэнты павінны выганяцца з апарату, не чакаючы генэральнае чысткі ўсяго апарату. Больш рашуча павесьці працу па высоўваньню на адказную кіруючую працу ў каапэрацыю з рабочых, батракоў і бядняцка-серадняцкага сялянства. Трэба арганізаваць поўнае і бесьперабойнае абслугоўваньне спажыўных патрэб працоўных, калгасаў і саўгасаў, імкнучыся да поўнага іх каапэраваньня. Павялічыць удзельнічаньне каапэрацыі ў культурнай і бытавой рабоце калгасаў і саўгасаў.

Трэба сур'езна паставіць задачу па ўзмацненьню каапэрацыйнай грамадзкасьці на падставе самакрытыкі і ўцягненьня мас ў актыўную барацьбу з бюракратызмам у каапэрацыі.

Асабліва важная задача, якая з ўсёю вострасьцю высунута XVI партыйнай канфэрэнцыяй—гэта праверка выкананьня дырэктыў партыі і ўраду. Нам трэба стала праверыць, ці ўсе мы дырэктывы выканалі, а калі не, дык чаму і як выканалі. У далейшым гэтыя дырэктывы павінны быць настольнай кнігаю кожнай арганізацыі. Вось якія задачы да Міжнароднага дню каапэрацыі.

Ітак, у гэты дзень працоўныя нашага Саюзу разам з сусьветным рэвалюцыйным каапэрацыйным рухам дэманструюць свой пратэст супроць падрыхтоўкі новай імпэрыялістычнай бойні, за абарону СССР.

Пасылаючы братэрскае прывітаньне працоўным усіх краін, члены нашых спажывецкіх таварыстваў у Міжнародны дзень каапэрацыі з асаблівым уздымам, з сілай і верай у посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва скажуць:

**Няхай жыве пралетарская рэвалюцыйная каапэрацыя!**

**Няхай жыве міжнародная салідарнасьць працоўных!**

**Няхай жыве саюз пралетарыяту ва ўсім сьвеце!**




Гандлёвыя прадпрыемствы Менскага ЦРК

С. Кудзінаў

# Сацыялістычнае спаборніцтва ў калгасах БССР

## Арганізатар спаборніцтва—У. І. Ленін

Пытаньне аб сацыялістычным спаборніцтве ў першы раз было пастаўлена ў 1920 годзе на IX зьезьдзе камуністычнае партыі. Ідэю спаборніцтва высунуў наш вялікі правадыр У. І. Ленін, які цесна ўвязваў спаборніцтва са справай будаўніцтва сацыялізму.

Мы павінны ў кароткі тэрмін дагнаць і перагнаць у тэхнічна-эканамічных адносінах перадавыя капіталістычныя краіны, ажыцьцяўляючы саціялістычную рэканструкцыю ўсяе народнае гаспадаркі.

Для таго, каб выканаць гэтыя вялікія задачы, партыяй і савецкай уладай зацьверджаны пяцігадовы плян гаспадарчага будаўніцтва. Плянам прадугледжаны хуткі тэмп індустрыялізацыі і сацыялістычная рэканструкцыя сельскае гаспадаркі.

XVI канфэрэнцыя УсеКП(б) адзначыла, што „пяцігадовы плян—гэта плян барацьбы рабочае клясы за перамогу капіталістычных элемэнтаў, плян сацыялістычнага перавыхаваньня мас, плян стварэньня фундамэнту для сацыялістычнага грамадзтва“.

## Спаборніцтва—найлепшы мэтад арганізацыі працоўных мас

Для перамогі цяжкасьцяй сацыялістычнага будаўніцтва, для канкрэтнага вырашэньня пастаўленых практычных задач па ўзмацненьню і разьвіцьцю народнае гаспадаркі патрэбна разбудзіць творчую ініцыятыву самых шырокіх працоўных мас. Яны павінны добраахвотна, з энтузыязмам узяцца за гэтую справу.

Найлепшым мэтадам арганізацыі мас для дасягненьня паказанай мэты ва ўмовах сацыялістычнага будаўніцтва зьяўляецца спаборніцтва.

За кароткі тэрмін спаборніцтва ахапіла вялікую колькасьць прамысловых прадпрыемстваў, пранікнуўшы ўва ўсе куткі савецкае краіны, вялізарнай хваляй праносіцца з канца ў канец, ахапляючы ўсе галіны народнае гаспадаркі.

Пакуль што ў спаборніцтва ўступаюць пераважна рабочыя масы прамысловых прадпрыемстваў. Спаборніцтва яшчэ недастаткова распаўсюдзілася на сельскую гаспадарку, на вёску.

Праўда, хваля спаборніцтва ўжо закранула і калгасы Беларусі. Па прыкладу пачаўшагася спаборніцтва ў прамысловасьці, калгасы таксама арганізоўваюць сацыялістычнае спаборніцтва на лепшае выкананьне пастаўленых партыяй задач па падвышэньню ўраджайнасьці, па ўзмацненьню калектыўных аб'яднаньняў. Але-ж гэты ўдзел калгасаў ў спаборніцтве яшчэ вельмі недастатковы з прычыны таго, што з боку кіруючых органаў калгаснага будаўніцтва да гэтае справы да апошняга часу ня было зьвернута належнае ўвагі.

Калгасы павінны і могуць павесьці вёску да новых высокіх ураджаяў, да сацыялістычнае гаспадаркі, прасоўваць у яе культурныя прыёмы земляробства.

Ёсьць выпадкі, калі да апошняга часу на мясцох часта заўважваецца такая думка, што спаборніцтва—гэта адна з звычайных палітычных кампаній. У зьвязку з гэтым спаборніцтва прыймае паказны, дэклярацыйны бок, з малым удзелам усяе масы працоўных паасобных калгасаў і іншых вытворчых аб'яднаньняў. Пры гэтым вынікі па выкананьню ўзятых на сябе калгасамі абавязкаў нікім не правяраюцца. Вось чаму часта спаборніцтва праводзіцца бессыстэмна. Мэтамі такога спаборніцтва высоўваюцца выпадковыя задачы. Яно ахапляе вельмі кароткі тэрмін і не становіцца сталым мэтадам у штодзённай працы калгасаў.

## Як праходзіць спаборніцтва паміж калгасаў БССР

Спаборніцтва пакуль-што ахапіла мала нашых калгасаў. Некаторыя калгасы аб спаборніцтве яшчэ нічога ня чулі.

У самым спаборніцтве паміж калгасамі ёсьць шмат няяснасьцяй. Так, некаторыя калгасы ў агульнай сваей працы бяруць якую-небудзь частку і высоўваюць яе на бліжэйшы час, як асноўную сваю задачу.

Так, напрыклад, сель.-гасп. арцель „Свабода“, Рагачэўскага раёну, Бабруйскай акругі, у бягучым годзе паставіла сваёю задачаю павялічэньне пасеўнай плошчы на 4 га, падвышэньню ўраджаю аўсу і ячменю ў 75 пуд. з дзесяціны і бульбы ў 900 пуд. З свайго боку арцель выклікае выйсьці на актыўную барацьбу за лепшы ўраджай арцелі „Пралетары“, „Пчолка“, „Усход“, „Най Лэбен“ і „Вэкер“, Бабруйскаго раёну.

Улічваючы гэтае паведамленьне ў Бабруйскім „Камунісьце“,прыходзіцца зрабіць вывад, што спаборніцтва паміж калгасамі „Свабода“, „Пралетара“ і іншых арганізоўваецца толькі на вясеньнюю пасеўкампанію, пры чым колькасьць намечаных спаборніцтвам мерапрыемстваў вельмі недастатковая.

Больш канкрэтна і яскравей высоўваюць перад сабой калгасы Гомельшчыны, як напрыклад—„Новы Араты“, „Фрайгайт“, „Дружба Уваравіцкая“, „Рэчкаўская Першамайская“, „Адзінства“ і іншыя.

Вось што ўключаюць гэтыя калгасы ў свае ўмовы спаборніцтва: пашырэньне пасеўплошчы, поўнае выкананьне закону аграмінімуму, узьняцьце якасьці і прадукцыйнасьці жывёлагадоўлі, падвышэньне вытворчасьці працы, зьнішчэньне ўжываньня наймовай працы, аказваньне дапамогі сем'ям беднякоў, пабудову дзіцячых пляцовак, абсталяваньне чырвонага кутку, устаноўку радыё, арганізацыю сель-гас. гуртку і гэтак далей.

У сучасны момант прымаюць удзел у сацыялістычным спаборніцтве звыш 60 калгасаў Бабруйскай, Магілеўскай, Полацкай, Гомельскай і інш. акруг. Найбольш актыўна ўдзельнічаюць у спаборніцтве калгасы Гомельшчыны і Бабруйшчыны.

## Асноўныя мэты і задачы спаборніцтва калгасаў

Па нашай думцы, асноўнымі момантамі, вакол якіх павінна вясьціся сацыялістычнае спаборніцтва ў калгасах, зьяўляюцца наступныя моманты: падвышэньне ўраджайнасьці калгасных палёў, пытаньні ўнутранага жыцьця, працы і быту калгасаў і сувязь калгасаў з вакольным насельніцтвам.

Па першаму пытаньню ўваходзяць ўсе агрыкультурныя мерапрыемствы, напрыклад, барацьба са шкоднікамі, культурны папар, ужываньне розных мінэральных угнаеньняў, попелу, торпу, падвышэньне тэхнікі апрацоўкі глебы і г. д. Падвышэньне вытворчасьці ўсіх іншых галін сельскае гаспадаркі калгасу. Наогул—поўнае выкананьне ўсіх мерапрымстваў, вызначаных законам аб аграмінімуме для калгасаў.

Па другому пытаньню неабходна канкрэтна пералічыць усе мерапрыемствы па палепшаньню і ўзмацненьню становішча калгасу. Гэта, напрыклад, устанаўленьне цьвёрдай працоўнай дысцыпліны, арганізацыя працы з пераводом яе на прынцып зьдельшчыны і падвышэньне вытворчасьці працы, павялічэньне непадзельных капіталаў калгасу, уцягненьне новых сяброў у калгас, барацьба з бягучасьцю складу сяброў, узбуйненьне калгасу за кошт далучэньня вакольнага пасёлку ці вёскі, палепшаньне культпрацы ў калгасе, поўная ліквідацыя няпісьменнасьці сярод сяброў, арганізацыя розных гурткоў, ясьляў, пляцовак, бібліотэк, клюбаў, радыё і г. д.

Па трэцяму пытаньню аб сувязі з вакольным насельніцтвам таксама неабходна высунуць шэраг мерапрыемстваў, якія калгас павінен выканаць



Дзіцячыя ясьлі ў калгасе

у вызначаны тэрмін. У першую чаргу неабходна высунуць мерапрыемствы па арганізацыі дапамогі вясковай беднаце (апрацоўка глебы, уборка ўраджаю, засеў палёў у васеньнюю пасеўкампанію і г. д.), уцягненьне сялян у калгас, садзейнічаньне арганізацыі новых калгасаў, прыцягненьне сялянскай сыравіны да тэхнічных прадпрыемстваў калгасаў.

## Хто павінен кіраваць спаборніцтвам паміж калгасамі

Перад акруговымі саюзамі калгасаў, як грамадзка-каапэрацыйнымі кіруючымі цэнтрамі сваее сыстэмы, усе мэты і задачы спаборніцтва павінны ўзьнімацца дастаткова яскрава і выразна.

Усе пытаньні, зьвязаныя з спаборніцтвам, павінны быць дэталёва прапрацованы на агра-вытворчых і інструктарскіх нарадах, на агульных раённых нарадах каапэрацыйна-калектыўнага актыву і г. д.

Надалей акркалгассаюзы павінны, як мага, шырэй разгарнуць працу па ўцягненьню ў спаборніцтва, акрамя калгасаў і іх куставых аб'яднаньняў, таксама і іншых каапэрацыйна-вытворчых аб'яднаньняў (машынныя, мэліорацыйныя і інш. таварыствы), а таксама арганізоўваць спаборніцтва паміж калгасамі і саўгасамі, калгасаў вёсак, пасёлкаў і г. д.

У мэтах забесьпячэньня рэалізацыі выкананьня мерапрыемстваў, намячаемых па выкліках калгасамі, трэба імкнуцца, каб гэтыя выклікі праводзіліся паміж больш-менш аднароднымі, аднолькавымі па эканамічна-гаспадарчай моцы, калгасамі. Пры гэтым патрэбна, каб калгасы, якія ўступілі ў спаборніцтва, і іншыя аб'яднаньні заключалі паміж сабой пісьмовыя дагаворы з дэталёвым пералікам тых абавязкаў, якія яны бяруць на сябе.

Адначасова неабходна калгассаюзам арганізоўваць сталую праверку выкананьня дагавораў па спаборніцтву, прыцягваючы да гэтае справы самую шырокую грамадзкасьць.

Толькі сацыялістычнае спаборніцтва зьяўляецца выяўленьнем грамадзкай актыўнасьці і павінна замацаваць салідарнасьць шырокіх працоўных мас на фронце сацыялістычнага будаўніцтва. Усе мерапрыемствы, дасягненьні і недахопы спаборніцтва неабходна дэталёва высьвятляць на старонках сваіх насьценных, акруговых і цэнтральных газэт. Таксама неабходна іх шырока абгаварваць на агульных сходах калгасаў, каапэрацыйнага і вясковага актыву, на раённых вытворчых і іншых нарадах.

## Спаборніцтва паміж акркалгассаюзамі

Адначасова з калгасамі ў сацыялістчыным спаборніцтве павінны прыняць удзел і акруговыя саюзы калгасаў БССР.

Галоўнай мэтай сацыялістычнага спаборніцтва паміж акркалгассаюзамі павінна стаць наступнае:

Выкананьне пляну калектывізацыі ў гэтым годзе ня толькі па колькасьці арганізуемых адзінак, а таксама і па плошчы зямлі, аб'яднанай гэтымі адзінкамі.

Да апошняга часу дырэктыва ўраду аб тым, штоб сярэдняя плошча зямлі нанова арганізаваных калгасаў была ня менш 140 га, большасьцю акруг ня выканана, за выключэньнем Гомельскай, Мазырскай і Бабруйскай акруг.

Трэба, каб астатнія акркалгассаюзы падцягнуліся.

Калгассаюзы павінны паставіць задачай ня толькі выкананьне гэтай дырэктывы ўраду, але і значнае перавышэньне ўстаноўленай нормы ў 140 га.

Другая задача—арганізацыя буйных калгасаў і ўзбуйненьне існуючых як за кошт зьліцьця дробных сумежных калгасаў ў адзін, так і за кошт далучэньня да калгасаў вакольных сялянскіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і цэлых пасёлкаў альбо вёсак.

Намечаныя задачы па арганізацыі буйных калгасаў большасьцю акруг зусім ня выконваюцца. Такія акругі, як Менская, Віцебская, Полацкая і іншыя, не зарганізавалі ніводнага буйнага калгасу.

Трэцяя задача—масавая калектывізацыя цэлых вёсак, сельсаветаў і г. д. Формы калектывізацыі павінны быць, як мага, больш спрошчаны ў тым напрамку, каб масавая калектывізацыя ажыцьцяўлялася пры найменшых укладаньнях дзяржаўных сродкаў ў будаўніцтва, землеўпарадкаваньне і г. д.

Для стварэньня належных умоў масавай калектывізацыі сельскае гаспадаркі неабходна зьвярнуць большую ўвагу на абслугоўваньне прасьцейшых вытворчых аб'яднаньняў і плянава накіраваць іх у напрамку, які спрыяе хутчэйшаму і лягчэйшаму пераходу іх у калгасы.

Задачы, якія высоўваюцца перад акркалгассаюзамі, вялізарны. Выканаць іх самастойна, без належнай дапамогі ўсіх партыйных, савецкіх, каапэрацыйных і грамадзкіх устаноў і арганізацый, нельга.

Пагэтаму ў спаборніцтва калгассаюзаў павінна стаць яшчэ задача—мабілізаваць усю грамадзкасьць, усю калектыўную думку як вёскі, так і гораду навокал пытаньняў калектывізацыі сацыялістычнай перабудовы ўсяе сельскай гаспадаркі на падставе калектыўнага земляробства.

Спаборніцтва калгассаюзаў і калгасаў павінна замацаваць і садзейнічаць далейшаму разьвіцьцю тых умоў іх арганізацыі і працы, якія не дапушчалі б павароту да ніжэйшых форм калектыўнай гаспадаркі, забясьпечвалі-б масавую калектывізацыю, ўзбуйненьне калектыўнай гаспадаркі, падвышэньне яе тэхнічнага ўзроўню, пашырэньне пасеву, падвышэньне ўраджайнасьці, павялічэньне непадзельных капіталаў калгасаў, палепшаньне быту, ліквідацыю няпісьменнасьці і разьняволеваньне жанчын.

---

Мацьвеенка

## Аб сацыялістычным спаборніцтве ў сыстэме сампрамкаапэрацыі

Белсампрамсаюз скончыў вялікую працу па правядзеньні справаздачна-перавыбарчай кампаніі нізавой сеткі крэдытна-прамысловых таварыстваў, арцеляў і акруговых сампрамсаюзаў. Некаторыя таварыствы і арцелі ачышчаны ад сацыяльна-чужых элемэнтаў. Абраны новыя кіруючыя органы.

Цяпер паўстала другая вельмі складаная і адказная праца, ад якой залежыць будучына нашае краіны, сацыялістычнае спаборніцтва. На ўсіх акруговых зьездах гэтае пытаньне займала першае месца. Белсампрамсаюз паслаў акруговаму саюзу дырэктывы па падрыхтоўцы і арганізацыі гэтае важнае справы.

Менска-Аршанскае аддзяленьне БСПС правяло нараду старшынь арцеляй гораду Менску, дзе стаяла пытаньне аб падрыхтоўцы і мэтадах правядзеньня сацыялістычнага спаборніцтва. Магілеўскі саюз першы прыступіў да падрыхтоўчае працы і выклікаў на спаборніцтва Гомельскі і Віцебскі саюзы на паляпшэньне працы апарату. Першы Магілеўскі скурзавод сыстэмы прамкаапэрацыі ўжо ўзяўся за спаборніцтва ўнутры заводу па цэхах, а таксама выклікаў усе Магілеўскія шавецкія арцелі, якія ў хуткім часе заключаюць з заводам умову.

Менская арцель краўцоў „Пралетары“, якая мае каля 300 сяброў, выклікала на спаборніцтва Гомельскія, Бабруйскія і Віцебскія кравецкія арцелі, але ад іх няма яшчэ адказу. Буйная Менская шавецкая арцель „Рэкорд“ ужо праводзіць падрыхтоўчую працу па паляпшэньню якасьці прадукцыі, па зьніжэньню сабекаштоўнасьці. Вылучаны брыгады, якія вядуць падрыхтоўку, каб арганізавана прыступіць да спаборніцтва. „Рэкорд“ выклікаў цэлы шэраг буйных шавецкіх арцеляй.

Пакуль што можна сказаць, што сацыялістычнае спаборніцтва ў сампрамкаапэрацыі пад сабою ня мае яшчэ глыбокае сыстэматычнае працы і плянавасьці. Акруговыя саюзы яшчэ не правялі, як належыць, падрыхтоўчае працы.

Сыстэма прамкаапэрацыі мае цэлы шэраг спэцыфічных умоў, якія не наглядаюцца ў дзяржпрамысловасьці (слабае тэхнічнае абсталяваньне, недахоп сыравіны, памяшканьня і г. д.). А таму кіруючыя органы павінны неадкладна падрыхтавацца і ўлічыць усе цяжкасьці, якія сустракаюцца пры правядзеньні спаборніцтва.

Галоўныя шляхі, па якіх павінна ісьці спаборніцтва, наступныя:

1) да ўступленьня ў спаборніцтва трэба праверыць фактычнае становішча ў арганізацыі таго пытаньня, па якому вызначаецца спаборніцтва; уся практычная праца, як выклікі, так і рашэньні па спаборніцтву, павінна быць абгаворана на агульных сходах арцеляй і ўпаўнаважаных; яе трэба высьветліць у насьценных газэтах і на вытворчых нарадах і гэтым самым зрабіць належныя ўмовы для сьвядомага ўдзелу ў спаборніцтве ўсяе саматужнае масы; асабліва трэба завастрыць увагу на неабходнасьці ўздыму вытворчай прапаганды; пытаньні спаборніцтва ў сыстэме прамкаапэрацыі могуць высоўвацца па розных галінах працы, як напрыклад: павялічэньне вытворчасьці, зьніжэньне сабекаштоўнасьці, падвышэньне якасьці прадукцыі, паляпшэньне працоўнай дысцыпліны, зьмяншэньне браку, рацыянальнае скарыстаньне сыравіны, паўфабрыкатаў і паянакапленьне.

Спаборніцтва павінна праходзіць як паміж асобнымі членамі арцеляй, так і паміж цэхамі, арганізацыямі і раёнамі, але так, каб яно было зьвязана з аднолькавымі галінамі прамысловасьці.

Для ажыцьцяўленьня вызначаных задач і мерапрыемстваў вельмі важна стварыць паказальныя цэхі, альбо групы, арганізаваць дэлегацыі паміж арцелямі для ўзаемнай праверкі і абмену вопытам, аб'явіць кантрольныя тэрміны і г. д.

Спаборніцтва дасьць добрыя вынікі, калі яно прыме масавы характар. Толькі пры актыўным удзеле і зацікаўленасьці бядняцка-серадняцкай часткі саматужнікаў мы здолеем падняць саматужную прамысловасьць на належную вышыню да такога месца, якое яна павінна заняць у народнай гаспадарцы БССР.

---

**Карповіч**

# Аб сацыялістычным спаборніцтве між працаўнікамі каапэрацыйнага страхаваньня

Па ўсяму Савецкаму Саюзу ва ўсіх галінах народнае гаспадаркі пачалося сацыялістычнае спаборніцтва на ўздым прадукцыйнасьці працы, за зьніжэньне сабекошту прадукцыі, за лепшую арганізацыю працы і інш. галіны работы.

Пачалося спаборніцтва і ў каапэрацыі. Каапэрацыйнае страхаваньне займае невялікае, але адказнае месца ў вырашэньні агульных задач каапэрацыі па рэканструкцыі народнае гаспадаркі і пераводу яе на сацыялістычныя рэйкі.

Каапэрацыйнае страхаваньне дапамагае арганізацыйнай ўвязцы ўсіх зьвенчакоў сыстэмы і робіць грашовае становішча яе ўстойлівым і гэтым самым дапамагае кожнай каапэрацыйнай арганізацыі плянава будаваць сваю работу.

Усё гэта гаворыць за тое, што і працаўнікі каапэрацыйнага страхаваньня павінны прыняць актыўны ўдзел у сацыялістычным спаборніцтве. Асабліва неабходна спаборніцтва паміж суб'агэнцтвамі, якія абслугоўваюць калгасы і наогул сельска-гаспадарчыя аб'яднаньні, сампрамкаапэрацыю, жыльлёвую і інвалідную каапэрацыю.

Па маёй думцы, спаборніцтва-выпярэдніцтва ў нас трэба весьці ў асноўным па такіх галінах, каб на 1 студзеня 1930 году было:

а) 100-проц. забесьпячэньне маёмасьці саюзаў;

б) 100-проц. ахоп усяе нізавое сеткі каапэрацыйных сыстэм як па ліку арганізацый, так і па поўнаму забесьпячэньню страхаваньнем усяе маёмасьці кожнай арганізацыі;

в) як мага большае скарачэньне ўсіх выдаткаў (пэнсія працаўнікам, канцэлярскія, паштовыя і інш.) у адносінах да збору прэміі па суб'агэнцтву.

Спаборніцтва паміж суб'агэнцтвамі каапэрацыйнага страхаваньня трэба праводзіць разам з саюзамі і ўключаць іх у агульныя дагаворы па спаборніцтву.

---

**Ан. Асташонак**

# Замацуем 2-ю пазыку індустрыялізацыі

Пасьпяховая кампанія па распаўсюджваньні другой пазыкі індустрыялізацыі, што адбылася 10 месяцаў таму назад, ускалыхнула рабочыя і сялянскія масы ўсяго Савецкага Саюзу, дала звыш 8 мільёнаў чалавек індывідуальных трымальнікаў пазыкі на суму звыш 400 мільёнаў рублёў.

Але, ня гледзячы на вялікае значэньне пазыкі індустрыялізацыі, мы можам наглядаць, што гэта зразумелі яшчэ ня ўсе працоўныя. Мы ня маем дастатковага разуменьня ў неабходнасьці доўгага трыманьня аблігацый на руках ці захаваньня ў банках, касах ашчаднасьці, на вёсцы ў крэдытных таварыствах і інш. Мы наглядаем, што за апошні час трымальнікі зьяўляюцца ў банкі, касы ашчаднасьці, выкупляюць аблігацыі і тут-жа іх прадаюць. Усе тлумачэньні працаўнікоў крэдытных установ застаюцца толькі размовамі.

Ёсьць выпадкі, калі частка рабочых і служачых лічыць, што свой абавязак перад рабочаю клясаю яны выканалі, зрабіўшы вялікую падпіску на пазыку, не падумаўшы аб тым, што яны зрабілі толькі адзін крок да выкананьня сваіх грамадзкіх абавязкаў. Вялікая ідэя дапамогі дзяржаве па індустрыялізацыі гаспадаркі ў сэнсе рэканструкцыі нашай сацыялістычнай прамысловасьці, уздыму і сацыялістычнай перабудовы раскіданых дробных сялянскіх гаспадарак на новай тэхнічнай базе, хуткі тэмп разьвіцьця сродкаў вытворчасьці трацяць сваю моц, а з гэтым вялікая задача перабудовы гаспадаркі на новых пачатках, вызначаная нашым пяцігадовым плянам, будзе выконвацца з большай напружанасьцю, чым гэта вызначана па пляну і зацьверджана XVI партканфэрэнцыяй і V усесаюзным зьездам саветаў.

Але гэта не азначае, што дзяржава ня справіцца без уцекачоў з эканамічнага фронту. Дзяржава мае рэзэрвы, каб выканаць намяркованае пяцігадовым плянам сацыялістычнае будаўніцтва хоць і з большай напружанасьцю, чаго ня было-б, каб трымальнікі аблігацый выканалі свой абавязак да канца, г. значыць, выканалі свой абавязак даць свае працоўныя ашчаднасьці ў доўгатэрміновую пазыку дзяржаве. Продаж пазыкі ёсьць ня больш, ня менш, як адмова паасобных трымальнікаў пазыкі ад грамадзкага абавязку дапамагчы дзяржаве будаваць гаспадарку на новых сацыялістычных пачатках.

Улічваючы цяжкасьці паасобных трымальнікаў, дзяржава пашла ім на дапамогу, дала магчымасьць аблігацыі ў крайніх выпадках закладваць у крэдытных установах і касах ашчаднасьці і пад іх атрымліваць пазыкі ў памеры 60% з тым разрахункам, каб, калі матар'яльнае становішча



палепшыцца, даваць магчымасьць пазыку выплаціць і зноў атрымаць аблігацыі. Дзяржава ідзе і на матар'яльную дапамогу і на дапамогу захоўваньня аблігацый у крэдытных установах дармова, з абавязкам перад кожным індывідуальным трымальнікам захоўваць аблігацыі, наглядаць за выйгрышамі, апавяшчаць індывідуальна (паасобку) трымальнікаў аб выйгрышах. Утрымліваючы аблігацыі на руках, не заўсёды і ня кожны трымальнік аблігацый мае магчымасьць сачыць за выйгрышам. Гэта сьцьвярджаецца тымі незапатрабаванымі выйгрышамі па пазыках, якіх у сучасны момант налічваецца звыш 40 мільёнаў рублёў.

Захоўваньне аблігацый дома не гарантуе ад страты іх, не гарантуе ад крадзяжу і іншых няшчасных здарэньняў.

Зусім іншыя выгоды дае трымальніку банк ці каса ашчаднасьці. Прасочым за гэтымі выгодамі.

1) Банк наглядае за тыражамі выйгрышаў і атрымлівае выйгрышы.

2) Атрымлівае ў вызначаны тэрмін проце́нты па аблігацыях.

3) Наглядае за тыражамі пагашэньня і атрымлівае тыражны капітал, сваечасова залічвае ўсе гэтыя сумы на асабовыя грашовыя рахункі ўкладчыка.

4) На атрыманыя сумы ад выйгрышаў і проценты банк, па жаданьню ўкладчыка, набывае новыя аблігацыі і залічвае іх на рахунак укладчыка з паведамленьнем яго.

5) Робіць па заявах укладчыкаў страхаваньне аблігацый ад тыражоў пагашэньня па тых пазыках, для якіх страхоўка устаноўлена.

6) Банк захоўвае тайну ўкладаў.

7) Па асабовых укладных пасьведчаньнях трымальнік яго можа рабіць усе апэрацыі таксама, як і з аблігацыямі (пазыкі, продаж часткова і зусім).

8) Асабовае пасьведчаньне, выдадзенае трымальніку аблігацый, гарантуе ад усіх страт, якія магчымы пры асабовым захаваньні дома.

9) Захаваньне і нагляданьне за ўсімі апэрацыямі па аблігацыях банк выконвае дарэмна.

10) Аблігацыі, якія знаходзяцца на захаваньні ў банку, укладчык па захавальным пасьведчаньні мае права ўказаць асобу, якой перадае права на ўклад у выпадку сьмерці і г. д.

11) Уклад каштоўнымі паперамі, па жаданьню ўкладчыка і за яго рахунак, можа быць пераведзен як у другую крэдытную ўстанову ці ў касу ашчаднасьці у Менску, так і ў другія гарады.

12) Уклады ў каштоўных паперах прымаюцца на захаваньне і кіраваньне на тэрмін і бяз тэрміну да запатрабаваньня, па жаданьню ўкладчыка.

Вось якія выгоды дае захаваньне ў крэдытных установах, і якія магчымы страты пры захаваньні дома.

Усе мерапрыемствы, якія праводзяцца дзяржаваю па замацаваньні пазык, павінны быць падтрыманы ўсімі членамі саюзу і сьвядомымі грамадзянамі.

Для пасьпяховага замацаваньня пазык ячэйкам КПБ, адміністрацыям ўстаноў, мясцкомам і камісіям садзейнічаньня, на сяле сельсаветам трэба разгарнуць шырока працу па растлумачэньню значэньня захоўваньня пазык на ўвесь тэрмін, вызначаны савецкаю ўладаю па кожнай пазыцы.

Трэба ўсім памянёным арганізацыям і асобам даказаць трымальніку пазыкі, што ён павінен зьяўляцца ўдзельнікам вялікага сацыялістычнага будаўніцтва.

А. Гольбін

# Аб спэцыялізацыі прамысловых саюзаў

Бурны рост прамысловай каапэрацыі за апошні пэрыод, значны ахоп вельмі рознастайных промыслаў і неабходнасьць далейшага разьвіцьця промыслаў на мясцовай сыравіне высоўваюць перад намі задачу зьмены арганізацыйных форм будаўніцтва саюзнага зьвенчака нашае сыстэмы.

Нашы саюзныя аб'яднаньні (бяручы прыклад з Бабруйскага акрсампрамсаюзу) ахапляюць да 18 рознастайных промыслаў. Калі яшчэ ўзяць пад увагу пэрспэктывы разьвіцьця новых промыслаў у бліжэйшы час, дык саюзныя аб'яднаньні будуць ахапляць да 25 і больш розных промыслаў. Зусім зразумела, што саюзныя аб'яднаньні ня здолеюць справіцца з задачай арганізацыйна-гаспадарчага абслугоўваньня такой буйнай першапачатковай сеткі з рознастайнымі промысламі. І сапраўды, хіба-ж работнікі могуць быць унівэрсаламі, знаёмымі з усімі вытворчымі працэсамі і гандлёвымі апэрацыямі рознастайнае па сваіх промыслах сеткі? Натуральна, што гаспадарчае абслугоўваньне многіх промыслаў, якія складаюць меншасьць па сваім колькасным складзе арцеляй, застаецца надзвычайна невыстарчальным.

Ня ў меншай меры кульгае арганізацыйна-інструктарскае абслугоўваньне, якое павінна быць накіравана, галоўным чынам, па лініі вытворчага інструктажу. Можна, зразумела, падаць цэлы шэраг фактаў з практыкі работы, якія сьцьвярджаюць невыстарчальнае і нездавальняючае абслугоўваньне некаторай часткі першапачатковай сеткі, што зьяўляецца вынікам існаваньня шмат-прамысловых (унівэрсальных) саюзаў.

Мне здаецца, што ўсе работнікі прамкаапэрацыі з практыкі работы пераканаліся, што сыстэма шмат-прамысловых саюзаў мае буйныя недахваты, якія затрымліваюць тэмп разьвіцьця прамысловай каапэрацыі.

Калі паглядзім у гістарычнае мінулае нашай сыстэмы, калі існавалі зьмешаныя саюзы (сельгаскрэдытпрамсаюзы) і параўнаем стан прамысловай каапэрацыі таго пэрыоду з цяперашнім, то станем перад фактам надзвычайнага росту і разьвіцьця нашай сыстэмы, што адносіцца за кошт вылучэньня спэцыяльных саюзаў прамысловай каапэрацыі.

Практыка вылучэньня спэцыяльных саюзаў па сыстэме с.-г. каапэрацыі таксама зусім апраўдала сябе і дала станоўчыя вынікі.

Усе паданыя акалічнасьці, што вынікаюць з практыкі работы каапэрацыйных сыстэм, зусім яскрава і выразна сьцьвярджаюць, што спэцыялізацыя каапэрацыйнай сыстэмы дае значна больш вынікаў, чым аб'яднаньне розных відаў каапэрацыі.

Пытаньне спэцыялізацыі промыслаў каапэрацыйнай сыстэмы было таксама ўзьнята на другой усесаюзнай аргнарадзе прамысловай каапэрацыі, якая прызнала вышэйшай формай саюзнага будаўніцтва аднапрамысловы спэцыяльны саюз.

Я лічу, што пытаньне спэцыялізацыі нашай сыстэмы ўжо насьпела і ва ўмовах Беларусі, але зразумела, што да гэтага пытаньня трэба падыходзіць з надзвычайнай асьцярожнасьцю.

У відзе практыкі можна вылучыць адзін спэцыяльна лесахэмічны саюз у беларускім маштабе. Гэты саюз будзе налічваць да 150 арцеляй, якія будуць уваходзіць у склад членаў лесахэмічнага саюзу, праўленьне якога будзе знаходзіцца ў Менску. Гэты саюз на агульных падставах уступае членам у Белсампрамсаюз.

Лесахэмічны саюз ніякіх аддзяленьняў або кантор у акругах ня мае, а ствасае інстытут упаўнаважаных і прыёмшчыкаў (апошнія ёсьць у акрсаюзах і зараз). Упаўнаважаныя выконваюць функцыі інструктароў.

Гаспадарчае-ж абслугоўваньне будзе адбывацца непасрэдна цэнтрам, бо і пры цяперашніх умовах забесьпячэньне лесасырцом і збыт лесаматар'ялаў і смалапрадуктаў адбываецца цэнтралізавана.

Некаторыя праціўнікі спэцыялізацыі сыстэмы могуць супярэчыць процi стварэньня такога саюзу, даводзячы, што акрсаюзы на мясцох самастойна робяць зьдзелкі па збыту лесаматар'ялаў, што ўжо немагчыма будзе пры стварэньні спэцыяльнага саюзу, а з прычыны гэтага можа пацярпець гаспадарчае абслугоўваньне сеткі. Але трэба катэгарычна адкінуць гэтую думку і вось чаму.

Мы ведаем, што нашы гандлёвыя работнікі, ня будучы вялікімі спэцыялістымі ў лясной справе, пры заключэньні зьдзелак раней раяцца з старшынямі арцеляй і толькі па іх згодзе заключаюць зьдзелкі. (Так і павінна быць, інакш немагчыма). З такім-жа посьпехам здолее гэта зрабіць і ўпаўнаважаны, які павінен быць у курсе гандлёвай дзейнасьці арцеляй.

Адсюль зусім ясна, што абслугоўваньне гэтых арцеляй ня толькі не пагаршаецца, але, наадварот, паляпшаецца, бо праўленьне і ўвесь апарат будуць выключна заняты інтарэсамі гэтых арцеляй і ня будуць адцягвацца інтарэсамі іншых, якіх ня будзе ў саюзе.

Мэтазгоднасьць вылучэньня лесахэмічнага саюзу, а ня іншага, тлумачыцца тым, што для забесьпячэньня і збыту прадукцыі даных арцеляй не патрэбна ўтрыманьне паасобных складаў, і гэтым значна бывае лягчэй стварэньне такога саюзу, які ня зьвязаны з лішнімі накладнымі выдаткамі.

Не адмаўляю, што пытаньне гэта патрабуе папярэдняга дэталёвага вывучэньня, але, бясспрэчна, што пытаньне спэцыялізацыі нашай сыстэмы ўжо насьпела, і, у мэтах аздараўленьня і далейшага разьвіцьця сыстэмы, гэтае пытаньне патрабуе найхутчэйшага вырашэньня.

Ад рэдакцыі. Гэты артыкул зьмяшчаецца ў парадку абгаварэньня, а таму просім таварышаў, якія ведаюць работу сыстэмы прамсамкаапэрацыі, выказаць свае думкі.

---

Ф. П. Садоўскі

# Да 6-га выпуску Беларускага дзяржаўнага каапэрацыйнага тэхнікуму

5-га чэрвеня 1929 г. адбыўся 6-ты чарговы выпуск каапэрацыйнага тэхнікуму. З гэтага дню 55 новых маладых каапэратараў з вялікім энтузыязмам пайшлі перабудоўваць твар вёскі на практычнай рабоце па ажыцьцяўленьню пастаноў партыі і савецкай улады, па рэканструкцыі сельскай гаспадаркі на базе калектывізацыі яе. 31 з выпускнікоў пойдуць па с.-г. і 24—па спажывецкай каапэрацыі.

З скончыўшых 31—дзеці сялян, з якіх 2 з калгасаў, 18 дзяцей беднаты і 11 сераднякоў, 2 выхаванцы дзіцячага дому, 3 рабочыя, 1 з дзяцей вясковае інтэлігенцыі, 1 батрак, 8 дзяцей служачых і 4 іншых.

Усе яны добра акадэмічна падрыхтаваны да каапэрацыйнае арганізацыйнае і тэхнічнае работы. Усе яны атрымалі выстарчальнае загартаваньне ў галіне культурна-каапэрацыйнай масавай работы. Усе яны ўвальлюцца ў шэрагі практычных каапэрацыйных працаўнікоў з тым, каб праз некаторы час, адбыўшы стаж, стаць сапраўднымі, моцнымі кадрамі каапэратараў.

Задачы каапэрацыйных сыстэм, якія прымуць у свае шэрагі скончыўшых, надзвычайна важныя і складаныя. Акруговыя саюзы каапэратываў павінны стварыць ім усе належныя ўмовы нармальнае стажыроўкі.

Трэба добрых 6-8 месяцаў даць маладым каапэратарам усе магчымасьці прыстасаваньня сваіх тэарэтычных ведаў, якія яны атрымалі ў тэхнікуме, на практычнай рабоце каапэрацыйнай сыстэмы. Тыя каапэрацыйныя таварыствы, у якія прыдуць яны на работу па стажыроўцы, не павінны максымальна скарыстоўваць іх на тэхнічнай рабоце, а павінны даць магчымасьць на працягу 6-8 месяцаў усвоіць усе галіны работы у іх дэталях.

Толькі па сканчэньні работы па стажыроўцы таварыствы могуць разглядаць студэнтаў як штатных супрацоўнікаў, бяручы курс на прадстаўленьне ім адказнай кіруючай работы. Трэба катэгарычна зьнішчыць думку аб тым, што малады стажор павінен ужо са школьнай лаўкі прынесьці практыку работы, трэба стварыць усе магчымасьці, каб гэтае практычнае загартаваньне ён атрымаў на рабоце да сваіх тэарэтычных ведаў, якія ім атрыманы ў тэхнікуме.

Каапэрацыйныя цэнтры павінны даць указаньні саюзам, а саюзы—таварыствам па ўсіх дэталях скарыстаньня маладых каапэратараў.

За найлепшыя ўмовы работы скончыўшых!

Шырэй дарогу новым каапэрацыйным кадрам!

---

# ПРАКТЫКА НАШАЕ ПРАЦЫ

А. Фрыд

## Саматужна-прамысловая сыстэма каапэрацыі БССР

(*на 1/X—1928 г. па матар'ялах БСПС*)

I

Асноўныя паказальнікі разьвіцьця першапачатковага зьвенчака сыстэмы сампрамкаапэрацыі на 1926-28 г.г. наступныя:

Рост першапачатковага зьвеньчака.

| | 1/X-26 г. | | 1/X-27 г. | | 1/X-28 г. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Лік арганізацый | Лік членаў | Лік арганізацый | Лік членаў | Лік арганізацый | Лік членаў |
| Арцелі . . | 175 | 1.911 | 265 | 4.159 | 617 | 10.957 |
| % прыросту | — | — | 51,4 | 117,6 | 132,8 | 163,5 |
| Таварыствы | 52 | 13.236 | 81 | 21.680 | 93 | 27.131 |
| % прыросту | — | — | 55,7 | 63,7 | 14,8 | 25,1 |

Тэмп росту каапэраваньня па арцельнаму зьвенчаку меў за два гады прагрэсыўнае разьвіцьцё, пры чым арцелі ўзбуйняліся, а рост па таварыствах прыпыняўся пры тым-жа працэсе узбуйненьня арганізацый.

II

Нераўнамернае разьвіцьцё ахопу арцельным зьвенчаком саматужнікаў і рамесьнікаў гораду, мястэчка і вёскі, пры чым у 1927-28 годзе ў тэмпе росту вёска адстае ад мястэчка, а мястэчка—ад гораду.

| | 1/X-26 г. | | 1/X-27 г. | | 1/X-28 г. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Лік арганізацый | Лік членаў | Лік арганізацый | Лік членаў | Лік арганізацый | Лік членаў |
| Горад . . . | 115 | 947 | 155 | 1.740 | 288 | 5.635 |
| % прыросту | — | — | 35 | 84 | 86 | 224 |
| Мястэчка . | 25 | 371 | 45 | 1.152 | 229 | 3.448 |
| % прыросту | — | — | 80 | 211 | 409 | 199 |
| Вёска . . . | 35 | 593 | 65 | 1.252 | 100 | 1.874 |
| % прыросту | — | — | 86 | 111 | 54 | 50 |

Асноўная дырэктыва па ўзмацненьню тэмпу каапэраваньня на вёсцы і ў мястэчку ў 1927-28 годзе ня была дастаткова выканана. Пры гэтым у мястэчку і на вёсцы адбываўся працэс драбненьня арцеляй, а ў гарадох—іх узбуйненьне. Кіраўніцтва арцельным рухам у мястэчку і на вёсцы было надзвычайна слабае.

Група арцеляй, якія працуюць на дэфыцытнай сыравіне, расла хутчэй, чым група арцеляй, якая працавала на сыравіне недэфіцытнай.

| | 1/X-26 г. | | 1/X-27 г. | | 1/X-28 г. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Лік арганізацый | Лік членаў | Лік арганізацый | Лік членаў | Лік арганізацый | Лік членаў |
| Па дэф. сыр. | 79 | 539 | 118 | 1760 | 354 | 6444 |
| % прыросту | — | — | — | 245 | — | 266 |
| Па нед. сыр. | 96 | 1372 | 147 | 2399 | 263 | 4513 |
| % прыросту | — | — | — | 174,8 | — | 192,7 |

I ў гэтай адносіне дырэктыва аб больш інтэнсыўным разьвіцьці па арцельнаму зьвенчаку промыслаў, якія грунтуюцца на сыравіне мясцовай і недэфіцытнай, ня была выканана. Інтэнсыўнае разьвіцьцё ў 1927-28 г. арцеляў, якія работаюць на дэфіцытнай сыравіне, прывяло да адноснага зьмяншэньня іх нагрузкі сыравінай. Гэтым, між іншым, тлумачыцца тое, што рост своднага балянсу арцеляй за 1927-28 год значна адставаў ад тэмпу росту каапэраваньня: прырост зводнага балянсу на 84,4%, а каапэраваньня—на 163,5%. У таварыствах як раз мы наглядаем адваротнае зьявішча: 97,8% і 25,1%

Рэгуляваньне росту двух відаў першапачатковага зьвенчаку сыстэмы і ўзмацненьне тэмпу росту арцельнага звенчаку адбывалася ў значнай ступені пад уплывам нармаванага водпуску сыравіны. У лістападзе 1928 г. Белсампрамсаюзам выпрацаваны нормы забесьпячэньня дэфіцытнай завознай сыравінай арцеляй і адзінак, пры чым для апошніх былі ўстаноўлены нормы, значна паніжаныя ў параўнаньні з першым, як, напрыклад, сукно для арцеляй выдавалася па 23,5 мэтр. на працаўніка, для таварystваў 2,5 мэтр., жалеза для гарадзкіх арцеляй 250 клгр., мэстачковых—200 клгр. і для таварystваў 100 клгр.

Узмоцненае разьвіцьцё арцельнага зьвенчаку адбывалася асабліва хутка ў адбудоўваемых мястэчках. У 1927-28 годзе іх было 9. Плян арганізацыі арцеляй у 9 мястэчках быў выкананы на 1 кастрычніка 1928 г. на 65%, пры чым найбольш слабае выкананьне мела месца па раёну Гомельскага саюзу, і ў адносіне промыслаў ганчарнага, чарапічнага, вапнянага, цэглянога і мэталяапрацоўчага, а больш поўна па промыслах кравецкім, шавецкім, дрэваапрацоўчым і па хлебапячэньню.

Хуткасьць росту арцельнага зьвенчаку далёка перагнала арганізацыйную здольнасьць кіраўніцтва рухам з боку Белсампрамсаюзу. Гэта выказвалася раней усяго на тым, што ня былі распрацаваны мэтады вывучэньня сацыяльнага складу першапачатковых арганізацый і мэтады яго рэгуляваньня. Пры наяўнасці агульных дырэктыў і пастаноў асобных нарад аб уцягненьні беднаты і аб барацьбе з клясава-чужым элемэнтам фактычна шэраг арганізацый быў засьмечаны нэпманамі і рвацкім элементам, які перашкаджаў узбуйненьню арцеляй за кошт бядняцкіх і асноўных серадняцкіх мас.

Гэтыя зьявішчы больш усяго мелі месца ў промыслах, якія, ня маючы гатовага рэзэрву рабочае сілы з масы саматужнікаў і рамесьнікаў, знаходзіліся пад загадам эканамічна-моцных уладароў прадпрыемстваў (смалакурэньне).

Ня быў наладжаны нагляд за сваечасовым выкарыстаньнем фонду каапэраваньня беднаты і вучот разьмераў яго выкарыстаньня. Па акруговых сампрамсаюзах і БСПС меліся астачы нявыкарыстаных фондаў каапэраваньня беднаты на 1 кастрычніка 1928 году.

Перавыбарчыя сходы беднаты, якія былі ў мінулагоднюю перавыбарчую кампанію па шэрагу арганізацый, ня былі арганізацыйна замацаваны ў выглядзе сыстэматычнае працы з беднатой і ў выглядзе стварэньня груп беднаты. Трэба, аднак, сказаць, што разам з выпадкамі засьмечаньня арганізацый сацыяльна-варожым элемэнтам адбываўся хоць і недастаткова працэс папаўненьня арцеляй бядняцкімі масамі, ствараліся бядняцкія арцелі, якія выціскалі клерыкальныя і нэпманскія элемэнты.

Процант каапэраваньня жанчын у 1927-28 годзе па арцельнаму зьвенчаку ўзьняўся і складае на 1/X 28 году 19% агульнага ліку членаў арцеляй. Жанчыны ўцягнуты пераважна ў кравецкія, трыкатажныя і ткацкія промыслы.

Моладзь уцягнута ў арцелі ў якасьці вучняў у памеры 11,9% да агульнага ліку членаў арцеляй па становішчу на 1/X 28 году, пры чым найбольш адсталай ў гэтай адносіне акругай зьяўляецца Гомельская і найбольш адсталым промыслам—гэта смалакураны, канатна-вяровачны, хэмічная. дрэваапрацоўчая і панчошна-трыкатажная прамысловасьць.

У 1927-28 годзе арцелі дзейнічалі па наступных промыслах:

| | Лік членаў | Выпрацавана ў год у тыс. руб. | На 1 члена |
|---|---|---|---|
| Абутковая | 2.434 | 2966,2 | 1.214 руб. |
| Шорная | 81 | 291,8 | 3.602 „ |
| Скураная | 234 | 617,5 | 2.638 „ |
| Кравецкая | 1.909 | 3436,2 | 1.800 „ |
| Панч.-трыкат. | 459 | 239,2 | 521 „ |
| Мэталя-апрац. | 339 | 650,2 | 1.917,9 „ |
| Дрэваапрац. і леса-прам. | 2.000 | 4002,2 | 2.001 „ |
| Смалакураная | 526 | 525,5 | 1.000 „ |
| Канатна-вяров. | 778 | 871,9 | 1.119,5 „ |
| Валяльная | 122 | 120,5 | 985 „ |
| Керамічная | 208 | 102,6 | 493 „ |
| Хэмічная | 90 | 641,9 | 7.132 „ |
| Галянтарэйная | 64 | 189,5 | 2.960 „ |
| Ткацкая | 112 | 120,3 | 1.074 „ |
| Харчавая | 769 | 1403,1 | 1.824 „ |
| І н ш. | 181 | 553,2 | 3.563 „ |

Адсутнічаньне вестак за 1926-27 г. не дае магчымасьці ўстанавіць дынаміку выпрацоўкі на аднаго члена арцелі. Трэба, аднак, канстатаваць нязначны памер гадавое выпрацоўкі па шэрагу промыслаў: панчошна-трыкатажным, абутковым, кравецкім, металяапрацоўчым, керамічным, валяльным і ткацкім.

Сярэдняя гадавая выпрацоўка па арцельнаму зьвенчаку—1.630 руб., а таксама і па паасобных промыслах, значна ніжэй сярэдняй і па адпаведных галінах у прамысловасьці ВСНГ, што тлумачыцца нізкім узроўнем тэхнічнае базы арцельнага зьвенчаку, недагрузам сыравіны, недахопамі ў арганізацыі кваліфікацыі і дысцыпліны працы.

Да кіраўніцтва працэсам вытворчасьці працы Белсампрамсаюз амаль не падышоў. Вытворчае інструктаваньне было выпадковае, слабае, капітальных укладаньняў у абсталяваньне і інвэнтарызацыю арцеляй было мала, і гэта праводзілася без належнага кіраўніцтва, нагляду і вучоту з боку БСПС. У выніку цярпела і вытворчасьць працы і якасьць прадукцыі.

Агульная сума каштоўнасьці выпрацоўкі арцеляй у 1927-28 годзе вылічваецца прыблізна ў 16.700.000 рублёў, продажу гатовых вырабаў у 16.800.000 рублёў, куплі сыравіны ў 12.700.000 руб., сувязь з саюзамі па збыту ў 35,8 проц, з прыватным спажыўцом і пасярэднікам у 28,4 проц., сувязь з саюзам па куплі сыравіны ў 50,9 проц, з прыватным вытворцам і пасярэднікам у 16,1 проц.

Збытавая апэрацыя арцеляй ня была дастаткова арганізавана як у адносіне ахопу яе саюзам і арганізаваным дзяржаўным і каапэрацыйным спажыўцом, так і ў адносіне тэхнікі і якасьці яе выкананьня і разьліку па ёй. Паездкі прадстаўнікоў асобных арцеляй у гарады РСФСР і УССР для збыту сваіх вырабаў былі частым зьявішчам у жыцьці арцеляй, дрэнная ўпакоўка і падлік накіроўваемага тавару, як і дрэнны падбор асартымэнту і нізкая якасьць тавару выклікалі частыя непаразуменьні, зварот тавараў і страты.

Само сабою зразумела, што пры дрэнным рэгуляваньні і нізкім узроўні вытворчасьці працы і якасьці прадукцыі не магла знаходзіць сабе вырашэньня задача зьніжэньня сабекаштоўнасьці і адпускной цаны на прадукцыю арцеляй, а гэта ўжо мае сур'ёзнае значэньне з пункту погляду канкурэнтнай здольнасьці прадукцыі сыстэмы і патаненьня яе для рабочага і сялянскага спажыўца. Нараканьні на якасьць прадукцыі сампрамсыстэмы і на яе каштоўнасьць мелі месца надзвычайна часта ў мінулым годзе.

Ад прадукцыйнасьці працы і яе якасьці і нагрузкі натуральна залежыць і заробчая плата. У справаздачным годзе пытаньне рэгуляваньня заробчае платы па арцелях, хоць і паўставала на ўвазе Белсампрамсаюзу, але не атрымала свайго вырашэньня. Між іншым, мы маем шэраг выпадкаў высокіх, непасільных для арцеляй памераў заробчае платы, дрэннага яе рэгуляваньня для асобных груп працаўнікоў у паасобных промыслах.

(Працяг у наступным нумары).

---

В. Шведаў

# Аб агнятрывалых таварыствах і аб сельскагаспадарчым будаўніцтве

*(У парадку абмеркаваньня)*

У першым нумары часопісі тав. А. Г. з Бабруйшчыны, у сваім артыкуле „Бяспрытульныя таварыствы“, даў кароткі нарыс становішча аб таварыствах па агнятрываламу будаўніцтву ў Бабруйскай акрузе. Такое становішча зьяўляецца характэрным ня толькі для аднэй Бабруйскай акругі, а за малым выключэньнем і для ўсяе БССР.

Нельга не згадзіцца с т. А. Г. што надзвычайна ненармальна, калі такі важны від каапэрацыйнага аб'яднаньня, як таварыствы па агнятрывалым будаўніцтве да гэтага часу ня маюць кіруючага асяродзішча, існуючы ня то самі па сабе, ня то пад крылом с.-г. крэдытных таварыстваў, або камітэтаў сялянскай узаемадапамогі.

Ня гледзячы на тое, што мінула ўжо шмат часу, як было вырашана дырэктыўнымі органамі пытаньне аб передачы іх пад сталае арганізацыйнае і гаспадарчае абслугоўваньне саматужна-прамысловай каапэрацыі, але-ж яны і да гэтага часу застаюцца, як кажа тав. А. Г., „бяспрытульнымі“ і, нібы той футбольны мяч, лётаюць паміж Наркамземам, сельскагаспадарчай каапэрацыяй і саматужна-прамысловай каапэрацыяй, нідзе не знаходзячы сабе прытулку.

Чаму-ж гэта прыпаў ім такі лёс, што, ня гледзячы на сваё шматгадовае існаваньне, яны дагэтуль не знаходзяць сабе прытулку, блытаючыся па-за ўсімі каапэрацыйнымі сыстэмамі? Чаму дагэтуль ніводная з сыстэм не „усынавіла“ гэтых „бяспрытульных“ каапэрацыйных пасынкаў, пакідаючы іх, як нейкага адшчапенца без усялякае дапамогі і кіраўніцтва?

Справа, мне здаецца, ў тым, што ў самой арганізацыі гэтых таварыстваў і характары іх работы заложана супярэчнасьць, якая на першых кроках іх існаваньня робіць іх нейкімі „адшчапенцамі“. Ня гледзячы на каапэрацыйны статут, на назву „таварыствы па агнятрываламу будаўніцтву“, сучасны зьмест іх работы зусім не адпавядае тым задачам, якія высоўвае перад імі статут, прадугледжваючы масавую каапэрацыйную

сялянскую арганізацыю, якая займаецца агнятрывалым сельскім будаўніцтвам. А ці зьяўляецца-ж некалькі дзесяткаў агнятрывалых таварыстваў у сёньняшнім іх становішчы масавай сялянскай арганізацыяй?

На гэта трэба катэгарычна адказаць, што не, не зьяўляюцца, бо кола тае работы, якую яны дагэтуль выконвалі і выконваюць, не ахапляе і ня можа ахапіць шырокія сялянскія масы.

Хто зьяўляецца членамі гэтых таварыстваў? Галоўным чынам, амаль на 90 проц., вясковыя саматужнікі, майстры па вырабу цэглы, чарапіцы, комінаў, калодзежных калец і вапны, якія выпадкова працуюць на сельскай гаспадарцы і для якіх грунтоўнай крыніцай існаваньня зьяўлялася работа на цагельнях, або чарапічных заводах. Звычайнаму селяніну, штодзённа зьвязанаму з сваёй гаспадаркай, ня майстру па вырабу гэтых матар'ялаў, у гэтых таварыствах толькі і застаецца, што ў вольны ад сельскай гаспадаркі час за падзённую плату мясіць гліну або насіць ваду—бязумоўна, ён пры гэтых умовах ня пойдзе ў члены гэтага таварыства, ды і само таварыства ня возьме яго.

Паколькі работа агнятрывалых таварыстваў у сучасным іх становішчы абмяжоўваецца выключна толькі вырабам матар'ялаў для агнятрывалага будаўніцтва, паколькі гэтыя таварыствы складаюцца, галоўным чынам, з вясковых саматужнікаў, абслугоўваньне іх бясспрэчна павінна быць ускладзена на саматужна-прамысловую каапэрацыю, але тады трэба было-б адпаведна зьмяніць іх статут і не называць іх таварыствамі па агнятрываламу будаўніцтву, а саматужнымі арцелямі па вырабу агнятрывалых матар'ялаў.

Вырашаючы такім чынам лёс таварыстваў па агнятрываламу будаўніцтву ў сучасным іх становішчы, трэба разам з гэтым паставіць наогул пытаньне, хто-ж будзе займацца наогул будаўніцтвам у сельскіх мясцовасьцях і ў прыватнасьці агнятрывалым?

Бясспрэчна, што гэтая справа на вёсцы павінна быць арганізавана, паколькі з кожным годам сельскае будаўніцтва значна пашыраецца: штогоднія пажары, якія зьнішчаюць ня толькі асобныя двары, а нават цэлыя вёскі, буйны рост калектывізацыі, разьвіцьцё іншых вытворчых каапэрацыйных аб'яднаньняў, пасёлкавых таварыстваў і інш.—усё гэта патрабуе адначасовага вырашэньня пытаньня аб гаспадарчых і жыльлёвых будынках; нарэшце, пабудова хлебных складаў, складзкіх памяшканьняў, сельсаветаў, тэхнічных прадпрыемстваў, мастоў, студняў, пажарных дэпо і інш.—усе гэта штогодна патрабуе мільёнаў рублёў дзяржаўных і грамадзкіх сродкаў і ўсё гэта, калі ня цалком, дык на 80—90 проц. робіцца бяз усякага праэктаваньня каштарысаў і тэхнічнага нагляду. Трэба сказаць, што дагэтуль на гэтую справу ня было зьвернута ніякае ўвагі ні з боку дзяржаўных устаноў, ні з боку грамадзкіх арганізацыяй.

Трэба лічыць зусім ненармальным, калі ня толькі селянін, а нават калгасы і іншыя каапэрацыйныя аб'яднаньні, праводзячы будаўніцтва за сродкі, атрыманыя ад дзяржавы, пазбаўлены нават магчымасьці карыстацца нібы якім тыповым праэктам, ня кажучы ужо аб сталым тэхнічным наглядзе. А жыцьцё сёньня патрабуе зусім іншага тыпу сялянскіх будынкаў, чым тыя, якія будуюцца дагэтуль, будынкаў, разьлічаных на стварэньне дабрабытных умоў для культурна-бытавой рэвалюцыі на вёсцы, разьлічаныя на ўкараненьне ў гушчу сялянства пачаткаў культурнага жыцьця, культурнага вядзеньня гаспадаркі і ўтрыманьня жывёлы.

Асабліва рашуча трэба гэта ставіць у адносінах да калгасаў, дзе трэба ўлічваць грамадзка-бытавыя мерапрыемствы па ўздыму культурнага ўзроўню насельніцтва калгасаў, асабліва жанчын, дзе трэба мець на ўвазе паступовыя абагульненьні быту і калектыўнае выхаваньне дзяцей. Але-ж мы яшчэ і сёньня бачым, што, аддадзеныя самі сабе, калгасы будуюць

новыя будынкі, якія нічым не адрозьніваюцца ад звычайных сялянскіх будынкаў, псуючы часамі каштоўны будаўнічы матар'ял і распыльваючы сродкі, не дасягаючы тых мэт, якія павінны быць рашуча перад імі пастаўлены.

Усё гэта гаворыць за тое, што і на вёсцы, як і ў горадзе, павінна быць арганізавана нейкая будаўнічая арганізацыя, якая магла-б узяць на сябе і праэктаваньне, і тэхнічны нагляд, і забесьпячэньне будаўнічымі матар'яламі і, нават, прадастаўленьне патрэбнай рабочай сілы—спэцыялістых-будаўнікоў.

Вось гэтай справай і павінны, памойму, заняцца таварыствы па сельскаму будаўніцтву, якія павінны быць арганізаваны ў самастойную, двухзьвенчаковую каапэрацыйную сыстэму: нізавая сетка таварыства і рэспубліканскі саюз гэтых таварыстваў. Па маштабу сваёй дзейнасьці гэтыя таварыствы павінны быць буйнараённымі, ня менш адміністрацыйнага раёну, і яднаць, апроч дабраахвотна ўваходзячых калектыўна цэлых вёсак ці пасёлкаў, усе каапэрацыйныя і грамадзкія арганізацыі, якія знаходзяцца ў раёне дзейнасьці гэтага таварыства. Індывідуальнага членства паасобных гаспадарак ці гаспадароў ня трэба ў гэтых таварыствах—патрэбны калектыўна ўваходзячыя юрыдычныя члены. Вось тады і тыя арцелі па вырабу агнятрывалых матар'ялаў знойдуць бясспрэчнае сваё месца у гэтых таварыствах, увайшоўшы ў іх на правах юрыдычных асоб. Бязумоўна, што работа гэтых таварыстваў бліжэй за ўсё будзе аднасіцца да сыстэмы сельска-гаспадарчай каапэрацыі і ў арганізацыйным і ў гаспадарчым напрамку сваёй дзейнасьці павінна быць увязана ў каапэрацыйных цэнтрах сыстэмы.

---

С. Кудзінаў

# Ці мэтазгодна дыфэрэнцыяваць пай у калгасах

*(У парадку абгаварэньня)*

### У калгасах дыфэрэнцыяваны пай не мэтазгодзен

Прынцып дыфэрэнцыяцыі паю шырока ўжываецца ў рабочай каапэрацыі. Добрыя вынікі ён даў і ва ўмовах спажывецкай каапэрацыі БССР.

Такое становішча паставіла пытаньне аб тым, ці мэтазгодна дыфэрэнцыяваць пай у сыстэме калгасаб'яднаньняў і якім чынам праводзіць гэтую дыфэрэнцыяцыю.

У адносіне калгасаў (с.-г. камун, арцеляй, таварыстваў па супольнай апрацоўцы зямлі) трэба сказаць, што прынцып дыфэрэнцыяцыі паю праводзіць сярод іх нельга.

Пай для ўсіх грамадзян, якія ўступаюць у калгасы—павінен быць аднолькавы. Для палягчэньня ўмоў уваходжаньня ў калгас беднаты, якая ня мае магчымасьці аформіць сваё членства ўнясеньнем паявога ўзносу—трэба скарыстаць усе ільготы, якія прадугледжаны існуючымі па гэтым пытаньні палажэньнямі. Гэта--каапэраваньне беднаты з фондаў калектывізацыі, а таксама растэрміноўка на некалькі год унясеньня паю ўступаючым у калгас бедняком ці батраком.

Дыфэрэнцыяваны пай у калгасах ня можа ўжывацца таму, што гэта можа павесьці за сабой вялікія склокі і наогул ненармальныя адносіны сярод членаў калгасу, у сувязі з чым значна панізіцца вытворчасьць працы гэтых членаў, паслабне дысцыпліна, і гаспадарчая моц калгасу будзе падаць.

## Як вызначаецца пай у машынных таварыствах

У машынных таварыствах у сучасны момант членскі пай вызначаецца згодна інструкцыі Белкалгассаюзу, па памеру зямельнай плошчы членаў таварыства, іх ліку і ў залежнасьці ад каштоўнасьці набору машын.

Так, напрыклад, мы маем машыннае таварыства ў складзе 20 членаў, маючых наогул 100 га зямлі і якія набылі машын і прыладаў на 1000 р.

Пры гэтым сацыяльны склад членаў таварыства наступны: 10 беднякоў, якія забясьпечаны па 2,5 га зямлі кожны, 5 серадняко́ў, якія маюць па 5 га зямлі і 5 заможных, якія маюць па 10 га зямлі.

Машыны набыты таварыствам у крэдыт, з тэрмінам пагашэньня на 5 год. Значыць, штогодна таварыства павінна пагашаць па 200 руб. у сярэднім.

Прымаючы пад увагу тое, што памер паю вызначаецца землязабясьпечанасьцю членаў таварыства, маем, што на кожны гэктар зямлі падае 2 рублі (200 руб.: 100 га).

Пры гэтакай устаноўцы памер паю для бедняка будзе раўняцца 5 руб. (2 руб. × 2,5), для серадняка—10 руб. (2 руб. × 5) і для заможнага—20 руб. (2 руб. × 10).

## Дыфэрэнцыяцыя паю па валавым прыбытку ад паляводзтва і рагатай жывёлы

Што мы будзем мець пры ажыцьцяўленьні прынцыпу дыфэрэнцыяцыі?

У аснову вызначэньня памеру дыфэрэнцыяванага паю для паасобных сацыяльных груп членаў машынных таварыстваў можна прыстасаваць наступныя мэтады:

1) вызначэньне паю па валавым прыбытку ад паляводзтва і буйнае рагатае жывёлы (па нормах Наркамфіну);

2) вызначэньне паю па агульным валавым прыбытку (па даных ЦСК);

3) вызначэньне паю па ўмоўна-чыстым прыбытку (даныя ЦСК).

Па нормах Наркамфіну, валавы прыбытак ад 1 дзес. пасеву=48 руб. і ад 1 каровы=19 руб.

Умовімся лічыць, што землязабясьпечанасьць паасобных сацыяльных груп сялян, якія ўваходзяць членамі ў машынныя таварыствы, умоўна-прыблізна аднолькавая. Каштоўнасьць набору машын і тэрмін пагашэньня крэдыту—таксама аднолькавыя.

Забясьпечанасьць каровамі паасобных членаў будзе наступная: беднякі—аднакароўныя, серадняки—двухкароўныя і заможныя—трохкароўныя.

Тады валавы прыбытак аднэй гаспадаркі будзе наступны: для бедняка—139 руб. (48×2, 5+19), для серадняка—278 руб. (48×5+19×2) і для заможнага—537 руб. (48×10+19×3).

Агульны валавы прыбытак паасобных сацыяльных груп будзе наступны:

| | | |
|---|---|---|
| беднякі | 139×10=1390 | руб. |
| серадняки | 278× 5=1390 | „ |
| заможныя | 537× 5=2685 | „ |
| Усяго | 5465 | „ |

Пры гэтым памер паявога ўзносу на 1 руб. валавога прыбытку будзе роўны 0,037 руб. (200 руб. : 5465 руб.).

Для пагашэньня 200 руб. крэдыту, паасобныя групы павінны будуць заплаціць:

| | | |
|---|---|---|
| беднякі | 1390×0,037= 51 | руб. |
| серадняки | 1390×0,037= 51 | „ |
| заможныя | 2685×0,037= 98 | „ |
| Усяго | 200 | „ |

Такім чынам, памер паю для членаў машыннага таварыства будзе роўны:

| | | |
|---|---|---|
| для бедняка | 51 : 10= 5 | руб. 10 кап. |
| „ серадняка | 51 : 5=10 | „ 20 „ |
| „ заможнага | 98 : 5=19 | „ 60 „ |

## Дыфэрэнцыяцыя паю па агульным валавым прыбытку

Па матар'ялах Цэнтральнага Статыстычнага Кіраўніцтва БССР, агульны валавы прыбытак паасобных груп сялянскіх гаспадарак вызначаецца наступным:

| Групы гаспадарак па пасеўнасьці | Валавы прыбытак у руб. | Увага |
|---|---|---|
| Бядняцкія ад 2,1 да 4,09 дзес. пасеву | 692 руб. | Прыбытак — на 1 гаспадарку |
| Серадняцкія „ 4,1 „ 6,09 „ „ | 1054 „ | |
| Заможныя „ 6,1 „ 10,09 „ „ | 1735 „ | |

| | |
|---|---|
| Агульны валавы прыбытак для ўсяе групы беднякоў будзе | 692×10= 6920 руб. |
| „ „ „ „ серадцякоў | 1054× 5= 5270 „ |
| „ „ „ „ заможных | 1735× 5= 8675 „ |
| Усяго | 20865 „ |

Пры гэтым, памер паявога ўзносу на 1 рубель валавога прыбытку будзе роўны 200 : 20865=0,0095 руб.

Для пагашэньня 200 руб. крэдыту паасобныя групы павінны будуць заплаціць:

| | |
|---|---|
| беднякі | 6920×0,00095= 66 руб. |
| серадцякі | 5270×0,00095= 51 „ |
| заможныя | 8675×0,00095= 83 „ |
| Усяго | 200 „ |

Такім чынам памер паю для членаў машыннага таварыства будзе роўны

| | | |
|---|---|---|
| для бедняка | 66 руб. : 10= 6 | руб. 60 кап. |
| „ серадняка | 51 „ : 5=10 | „ 20 „ |
| „ заможных | 83 „ : 5=16 | „ 60 „ |

## Дыфэрэнцыяцыя паю па ўмоўна-чыстым прыбытку

Па матар'ялах Цэнтральнага статыстычнага кіраўніцтва — умоўна-чысты прыбытак вызначаецца для беднякоў — у 471 р., для серадцякоў — у 650 руб. і для заможных — у 913 руб.

Агульны ўмоўна-чысты прыбытак для ўсяе групы:

| | |
|---|---|
| беднякоў | 471×10= 4710 руб. |
| серадцякоў | 650× 5= 3250 „ |
| заможных | 913× 5= 4565 „ |
| Усяго | 12525 „ |

Пры гэтым, памер паявога ўзносу на 1 руб. умоўна-чыстага прыбытку будзе роўны 0,016 руб. (200 : 12525).

Для пагашэньня 200 руб. крэдыту паасобныя групы павінны будуць плаціць:

| | |
|---|---|
| беднякі | 4710×0,016= 75 руб. |
| серадцякі | 3250×0,016= 52 „ |
| заможныя | 4565×0,016= 73 „ |
| Усяго | 200 „ |

Такім чынам, памер паю для членаў машыннага таварыства будзе наступны:

| | | |
|---|---|---|
| для бедняка | 75 руб. : 10= 7 | руб. 50 кап. |
| „ серадняка | 52 „ : 5=10 | „ 40 „ |
| „ заможнага | 73 „ : 5=14 | „ 60 „ |

### Ці мэтазгодна дыфэрэнцыяцыя паю для машыннага таварыства?

Якія вывады можна зрабіць, калі разглядзець тыя лічбы, якія мы атрымалі ў выніку разьліку паю пры ажыцьцяўленьні прынцыпу дыфэрэнцыяцыі?

Для гэтага дастаткова скласьці і разглядзець наступную табліцу сярэдніх памераў паёў па паасобных групах у залежнасьці ад розных мэтадаў вызначэньня гэтых паёў.

| Мэтад вызначэньня сярэдняга паю | Сума сярэдняга паю для паасобных груп | | |
|---|---|---|---|
| | Беднякоў | Серадняакоў | Заможных |
| Па памеры зямельнай плошчы . . . . . . . . . | 5 р. — к. | 10 р. — к. | 20 р. — к. |
| „ валавым прыбытку ад паляводзтва і буйнай рагатай жывёлы . . . . . . . . . . . . . . . | 5 „ 10 „ | 10 „ 20 „ | 19 „ 60 „ |
| „ агульным валавым прыбытку . . . . . . . . | 6 „ 60 „ | 10 „ 20 „ | 26 „ 60 „ |
| „ ўмоўна-чыстым прыбытку . . . . . . . . . | 7 „ 50 „ | 10 „ 40 „ | 14 „ 60 „ |

Самы першы вынік—гэта тое, што пры ажыцьцяўленьні прынцыпу дыфэрэнцыяцыі, сярэдні пай серадняцкай групы амаль што аднолькавы, незалежна ад мэтаду вызначэньня гэтага паю.

За тое, значна зьмяняецца памер паю ў крайніх групах—бядняцкай і заможнай, пры чым, у той час, калі пай для бедняка павялічваецца, для заможнага ён параўнальна памяншаецца.

Улічваючы, што асноўны асяродак членаў машынных таварыстваў складаецца з бядняцка-серадняцкай часткі насельніцтва, мы павінны зрабіць апошні вывад, што ўжываньне прынцыпу дыфэрэнцыяцыі паю ў машынных таварыствах зусім ня мэтазгодна, бо пры гэтым выйграе толькі маленькая група самых заможных членаў машынных таварыстваў, што скажае нашу клясавую лінію.

---

Б. Д-н

## Задачы капіталакіраваньня ў сыстэме спажыўкаапэрацыі

Грамадзкі сэктар народнае гаспадаркі ў твары спажывецкай каапэрацыі мае асноўны таварапрасоўваючы апарат з арганізацыяй спажываньня на падставе каапэраваньня шырокіх мас насельніцтва.

Сыстэма, паглыбляючы каапэраваньне да поўнага ахопу шырокіх мас насельніцтва, павялічвае актыўнасьць сваіх сяброў, а разам з тым стаіць на шляхох глыбокага ўкараненьня плянавых пачаткаў ва ўсе галіны сваей дзейнасьці, што павінна забясьпечыць магчымасьці рэгуляваньня і манэўраваньня таварнымі масамі ў адпаведнасьці з плянамі разьвіцьця народнай гаспадаркі ў цэлым.

Пяцігадовы плян разьвіцьця народнай гаспадаркі, у прыватнасьці, пяцігодка спажывецкай каапэрацыі забясьпечваюць паступовы рух сыстэмы спажывецкай каапэрацыі ў бок сацыялістычнага разьмеркаваньня.

Амаль усе паступленьні тавараў забясьпечваюцца плянавасьцю і, нават, такія, як сельска-гаспадарчай і саматужнай вытворчасьці ў сувязі з сыстэмай кантрактацыі і генэральнымі ўмовамі прымаюць характар плянавага паступленьня, а, значыць, і плянавага разьмеркаваньня.

Усё гэта высоўвае ўпартыя патрабаваньні ў манэўраваньні сродкамі, якія абслугоўваюць таваразварот сыстэмы. Тыя арганізацыйныя формы і практыка грашовай гаспадаркі ў сыстэме, якія склаліся і зараз існуюць, не забясьпечваюць такога кіраваньня сродкамі, каб паступленьне і рух у

гаспадарцы знаходзіліся ў адпаведнасьці з плянамі руху і разьмеркаваньня таварных мас. Ёсьць шмат прыкладаў са штодзённай практыкі ў працы каапэрацыі, калі сучасная сыстэма грашовай гаспадаркі тармозіць выкананьне шэрагу мерапрыемстваў будаўніцтва і рацыяналізацыі. Возьмем да прыкладу ўкладаньне ўласных сродкаў у больш-менш буйнае будаўніцтва ў нізоўцы. Калі гэтыя сродкі ёсьць і яны распылены ў сотнях спажывецкіх таварыстваў, а асобныя нізавыя арганізацыі працуюць з лішкамі сродкаў, некаторыя церпяць вялікія цяжкасьці. Саюз знаходзіцца ў паласе бязупынных грашовых цяжкасьцяў, а паасобныя таварыствы маюць грашовыя лішкі.

Ужо сур'ёзна насьпела неабходнасьць пастаноўкі праблемы капіталакіраваньня ва ўсёй яе шырыні, і гэтую праблему трэба вырашыць так, каб плянавае паступленьне і плянавае разьмеркаваньне таварных мас адначасова былі зьвязаны з плянаваньнем усіх крыніц сродкаў і разьмеркаваньнем іх паміж асобнымі зьвенчакамі і галінамі працы.

Але і ў гэтым пытаньні ёсьць шмат цяжкасьцяй. Значнаю перашкодаю ў падыходзе да капіталакіраваньня ў сыстэме зьяўляецца перш за ўсё тое, што каапэрацыйныя арганізацыі моцна звыкліся з практыкай самакіраваньня сродкамі ў межах сваей гаспадаркі. Перашкаджае і рознастайнасьць крыніц, незалежнасьць гэтых крыніц аднае ад другой ў галіне паступленьня пазыковых сродкаў у каапэрацыйны таваразварот як у выглядзе таварных крэдытаў, так і ў выглядзе банкаўскіх крэдытаў і іншых крыніц запазычанасьці.

Адгэтуль распыленасьць кіраваньня сродкамі паміж сотнямі асобных юрыдычных асоб, адгэтуль адсутнічаньне магчымасьці ўвязаць плян тавараапрацоўваньня з такім-жа плянам руху сродкаў.

Зусім вядома, што праблема арганізацыі капіталакіраваньня, якая ўзьнікла на базе плянавае гаспадаркі, ня можа быць вырашана пры існуючых арганізацыйных формах грашовай гаспадаркі сыстэмы, тым больш ва ўмове абасобленасьці фінансаў паасобных арганізацый. З другога боку, адыход ад устарэлых форм нікольki не павінен паслабляць ініцыятывы мясцовых арганізацый ў становішчы ўласных фінансаў.

Вось тут уся складанасьць у вырашэньні гэтага пытаньня.

Пры вышуканьні форм належнай арганізацыі грашовай гаспадаркі ў сыстэме павінен быць улічаны вопыт працы Ўсекабанку. Апошні па сваёй прыродзе і мэтадах працы зможа забясьпечыць плянавае манэўраваньне сродкамі, якія вызначаны для абслугоўваньня каапэрацыі. Наогул трэба мець на ўвазе, што банкаўская форма кіраваньня сродкамі дае магчымасьць стварэньня агульных для кожнай дадзенай сыстэмы капіталаў, што і забясьпечыць плянавае разьмеркаваньне іх. Такімі сродкамі цяпер зьяўляецца паявы капітал банку, які згуртованы ў каапэрацыйных банках, запасныя капіталы каапэрацыі, адлічэньні ў фонды доўгатэрміновага крэдытаваньня, а таксама тая частка бягучых рахункаў каапэрацыі, якая можа быць зьвернута ў актыўныя апэрацыі. Дыскусія, якая была па гэтаму пытаньню ў друку, выявіла, што толькі на базе скарыстаньня каапэрацыйных банкаў сыстэма здолее стварыць адзінства грашовай гаспадаркі і атрымаць найбольш поўныя магчымасьці капіталакіраваньня.

Форма каапэрацыйных банкаў дае ўмовы да складаньня такіх грамадзкіх капіталаў, якія, забясьпечваючы магчымасьці плянавага іх разьмеркаваньня, ў той-жа самы час захоўваюць зацікаўленасьць асобных арганізацый сыстэмы ў мабілізацыі ўсялякага роду нізавых сродкаў.

Г. П. Ісакаў

# Аб ролі с.-г. каапэрацыі БССР на рынках сыравіны і аб загатоўчай палітыцы на 1929-30 год

Дакладныя весткі аб разьмеры загатовак сыравіны на беларускім рынку плянавымі загатавіцелямі і аб удзеле ў гэтых загатоўках сыстэмы с.-г. каапэрацыі ў праўленьні Белсельсаюзу ёсьць толькі за два папярэднія 1926-27 і 1927-28 г. г.

Раней-жа, з прычыны слабасьці каапэрацыйнай сувязі па збытавых апэрацыях па сыстэме, віды сыравіны, якія нарыхтоўваліся першапачатковай сеткай с.-г. каапэрацыі, збываліся ў значнай частцы ніжэйшымі зьвенчакамі каапэрацыі, апрача сыстэмы, а ў выніку мы ня маем цьвёрдых лічбовых даных аб загатоўках сыравіны па сыстэме с.-г. каапэрацыі за ранейшыя гады.

Лічбы гавораць, што ўдзел сыстэмы с.-г. каапэрацыі ў загатоўках сыравіны з кожным годам павялічваецца.

Вядома, што рост удзелу ў загатоўках павялічваецца ў залежнасьці ад пашырэньня каапэраваньня насельніцтва і ад узмацненьня і пашырэньня самой ніжэйшай сеткі с.-г. каапэрацыі і якасьці яе працы.

Паводле кантрольных лічбаў на 1929-30 год сыстэмай с.-г. каапэрацыі БССР намячаецца наступны ўдзел у плянавых загатоўках: па хлебапрадуктах—45 проц., па ільна-валакну—77,5 проц., па ільнанасеньню—64 проц., па пяньцэ—70 проц., па скурсырцу—40 проц., па шчаціне—30 проц., па конволасу—35 проц., па пушніне—30 проц., па мясу—45 проц., па бульбе—53 проц. і па іншых відах—да 30—35 проц.

Асноўным мерапрыемствам па далейшым узмацненьні ролі сель.-гасп. каапэрацыі на рынку сыравіны, бязумоўна, зьяўляецца ўзмацненьне тэмпу каапэраваньня насельніцтва, асабліва вытворчага каапэраваньня, узмацненьне рабочага апарату самой сыстэмы каапэрацыі, асабліва яго ніжэйшага зьвенчаку і пашырэньне і паглыбленьне кантрактацыі па ўсіх таварных відах сыравіны ў сельскай гаспадарцы. Апрача таго, практыка мінулага і бягучага году загатоўчай работы сыстэмы с.-г. каапэрацыі паказала, што ёсьць і шэраг іншых прычын, якія тармозяць разьвіцьцё загатоўчай работы с.-г. каапэрацыі, як:

1) існаваўшая значная разьбежка паміж загатоўцамі і вольнымі рыначнымі цэнамі, асабліва на рынку хлебапрадуктаў;

2) па некаторых відах загатовак сыравіны на рынку існуе шмат загатоўчых арганізацый, што ня выклікаецца патрэбнасьцю поўнага ахопу рынку;

3) пры дэфіцытнасьці некаторых прамысловых тавараў шырокага спажываньня, сыстэмай спажывецкай каапэрацыі пры загатоўчай рабоце ўжываўся мэтад простага тавараабмену дэфіцытных тавараў на с.-г. сырэц, што ў значнай частцы падрывала загатоўчую работу сельска-гаспадарчай каапэрацыі;

4) сыстэма с.-г. каапэрацыі выступае па некаторых відах загатовак, як напрыклад скурсыравіне, разам з загатоўчым апаратам тэй прамысловасьці, якой здаецца сыравіна, пры чым загатоўчы апарат прамысловасьці, пры прыёме загатаваных відаў сыравіны ад с.-г. каапэрацыі ўжывае мэтад дробных прычэпак і наогул у сваёй рабоце стараецца падарваць аўтарытэт у загатоўчай рабоце нашай ніжэйшай сеткі, што, вядома, адбівае ахвоту апошняй разгортваць гэтую работу.

5) слабае паступленьне с.-г. прадуктаў і сіравіны па контрактацыі, галоўнымі прычынамі чаго былі:

а) няспрыяючая рынчная кан'юнктура і невыстарчальнае рэгуляваньне ў свой час цэн на бульбу, якія былі цьвёрда ўстаноўлены НКГ БССР на закантрактаваную бульбу. Гэтыя цэны рэзка разыходзіліся з вольнымі рыначнымі, і селяніну-кантрактанту карысьней было не здаваць бульбу па кантрактацыі, а прадаваць на вольным рынку;

б) нездавальняючае забесьпячэньне хлебам кантрактантаў ільна-валакна; разьмеркаваньне хлеба здатчыку лёну, у тым ліку і кантрактантам, было даручана спажывецкай каапэрацыі, якая, ня будучы зацікаўлена справай кантрактацыі і маючы свае пляны загатовак, бязумоўна, садзейнічала здавальненьню хлебам у першую чаргу тых сялян, якія прадавалі лён спажывецкай каапэрацыі; такое-ж становішча было і з забесьпячэньнем алеем здатчыкаў-кантрактантаў ільна-насеньня.

Канкрэтна для павялічэньня ўдзелу с.-г. каапэрацыі ў загатоўках сырцу на 1929-30 г. трэба:

1) дэталёва правесьці цьвёрдае кантынгентаваньне асноўных загатоўцаў і рашуча і жорстка праводзіць барацьбу з усякім праяўленьнем канкурэнцыі сярод гэтых загатоўцаў, пры чым: а) у тых раёнах, дзе пераважная частка таварнасьці па ільнавалакну закантрактавана сыстэмай с.-г. каапэрацыі, зьняць з рынку загатовак гэтых культур у 1929-30 годзе сыстэму спажывецкай каапэрацыі, пакінуўшы толькі ў такіх раёнах 2 загатоўцаў: с.-г. каапэрацыю і Белдзяржгандаль; б) у раёнах, дзе загатоўка скурсыравіны поўнасьцю ахапляецца спажывецкай і с.-г. каапэрацыяй, зьняць у 1929-30 г. з рынкаў такіх раёнаў загатоўцаў скурсындыкату, пакінуўшы там толькі двух загатоўцаў: с.-г. і спажывецкую каапэрацыю;

2) катэгарычна забараніць спажывецкай каапэрацыі пры загатоўчай дзейнасьці ўжываць мэтады простага тавараабмену відаў сыравіны на дэфіцытныя прамысловыя тавары, правёўшы жорсткую кампанію па прыцягненьню вінаватых да судовае адказнасьці;

3) да пачатку загатоўчага пэрыоду па ільна-валакну правесьці больш дэталёвую стандартызацыю ільняных раёнаў па якасьці ільна-валакна ў іх;

4) па загатоўках другарадных відаў сыравіны не перашкаджаць сыстэме с.-г. каапэрацыі пры аднчасовым правядзеньні загатовак праз інстытут упаўнаважаных з актыву пайшчыкаў, ужываць таксама і мэтад работы з прасаламі;

5) пры прэм'яваньні здатчыкаў пры загатоўках тых або іншых відаў сыравіны вызначыць пераважныя ільготы такога прэм'яваньня для кантрактатараў, перадаўшы прэм'яваньне кантрактатараў выключна толькі сыстэме сельска-гаспадарчай каапэрацыі, якая прымае закантрактаваныя тавары;

6) прымаючы пад увагу, што загатоўчыя арганізацыі сыстэмы с.-г. каапэрацыі перажываюць зараз крызіснае становішча са складзкімі памяшканьнямі, з аднаго боку, а з другога, што, паводле існуючых дырэктыў, с.-г. каапэрацыя павінна стаць асноўным і нават на працягу бліжэйшых год адзіным загатоўцам на рынку сыравіны, трэба прыняць усе захады да вызначэньня сродкаў с.-г. каапэрацыі на гандлёвае будаўніцтва і ўсе пляны гандлёвага будаўніцтва па ўсіх загатавіцельных арганізацыях увязаць з пэрспэктывамі заготоўчай работы кожнай арганізацыі на далейшы час.

Г.

# Кан'юнктура па сыстэме спажыўкаапэрацыі ў красавіку і маі

## 1. Агульная ацэнка

Падвышэньне гандлёвай кан'юнктуры ў красавіку ў маі зьмянілася паніжэньнем. Падвышэньне ў красавіку і паніжэньне ў маі абумоўлівалася сэзонна-бытавымі фактарамі і магчымасьцямі таварнага задавальненьня попыту насельніцтва. Падвышаны попыт насельніцтва ў красавіку, як перадсьвяточным месяцы, здавальняўся таксама за кошт значных запасаў, якія стварыліся ў сыстэме ў выніку дэпрэсіі зімовых месяцаў. Па дадзеных карэспадэнцкіх паведамленьняў, у маі вызначыўся перакід сельскага попыту на прамтавары вытворчага прызначэньня (сельска-гаспадарчыя прылады, машыны, будаўнічыя матар'ялы і г. д.) і на сельска-гаспадарчыя прадукты (хлеб, крупы і г. д.).

Пры панізіўшыхся зваротах сыстэмы ўсё-ж попыт насельніцтва на цэлы шэраг прамтавараў і сельска-гаспадарчых прадуктаў не знаходзіў свайго таварнага пакрыцьця. Па ранейшаму недастатковасьць таварнага посулу, абмежаваны (нарміраваны) водпуск насельніцтву шырокага кола дэфіцытных тавараў зьявіліся асноўным затрыманьнем для разьвіцьця зваротаў сыстэмы і, як відаць, аднэй із асноўных прычын больш паступовых тэмпаў руху зваротаў у параўнаньні з адпаведным пэрыодам мінулага году.

Абглядваемыя два месяцы характарызуюцца наступнымі асноўнымі паказальнікамі гаспадарчай работы сыстэмы:

(прырост у %% да папярэдн. месяцаў).

| | Паступ. тавараў па пак. цане | Зварот па продажу | Астача | | Вакольная запазычанасьць | Каса і бягучыя рахункі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | У абсал. вbyраз. | У днёх | | |
| Красавік . . . . | +11 | +15,9 | — 3,1 | 30,8 | — 7,3 | +60,6 |
| Сел. сп. т-вы | | | | | | |
| Май . . . . . . . | —12,2 | —16,7 | + 2,2 | 38,5 | + 5,7 | —28,8 |
| Май 1928 г. . . . . . | + 4,5 | — 4,0 | — 2,0 | 35,7 | — 6,9 | + 5,7 |
| Красавік . . . . | +12,1 | +23,3 | + 8,9 | 37,1 | +10,9 | +80,3 |
| ЦРК | | | | | | |
| Май . . . . . . . | —17,7 | —18,7 | + 6,5 | 49,3 | — 3,8 | —63,6 |
| Май 1928 г. . . . . . | — 4,8 | —13,9 | — 0,8 | 46,3 | — 3,1 | —39,4 |
| Красавік . . . . | +30,5 | + 8,7 | — 4,7 | 19,5 | + 0,1 | — |
| Саюзы | | | | | | |
| Май . . . . . . . | —16,3 | —15,2 | —14,3 | 20,0 | — 7,3 | —51,4 |
| Май 1928 г. . . . . . | — 7,2 | +18,5 | + 2,3 | 21,8 | — 7,0 | +38,5 |

## Забесьпячэньне

Пяройдзем да характарыстыкі асобных таварных рынкаў, становішча якіх у асноўным абумоўлівае забесьпячальныя магчымасьці сыстэмы.

Тэкстыльны рынак працягваў мець вострае напружаньне, якое ў паведамленьнях карэспандэнтаў атрымоўвае такую характарыстыку: па Гомельскаму райсаюзу: „рэзка зьменшыўся завоз крамніны, зусім ня было завозу суконных тавараў і шэрсьці, недаводпуск крамніны спажывецкім таварыствам значна адбіўся на зваротах сеткі". Па Віцебскаму райсаюзу: „попыт на крамніну падвышаны, і той ня поўнасьцю здавальняўся ў сувязі з адсутнасьцю сэзонных тавараў". Па Барысаўскаму ЦРК: „зусім ня было паступленьня крамніны ў маі; тая крамніна, якая паступіла ў красавіку, далёка не адпавядала сэзоннаму попыту".

Па ранейшаму асартымэнт тэкстылю не адпавядаў попыту насельніцтва. У вялікім недахваце былі бялізна, крамніна для плацьцяў і штучныя тавары. Пляны завозу за красавік і май адпаведна былі выкананы ў 98,3 проц. і 73 проц. У каштоўным выражэньні ў процантах да папярэдняга месяцу завоз складаў у красавіку 73,5 проц. і маі 83,8 проц.

Што-ж датычыцца рынку гатовага адзеньня, дык у працягу гэтых месяцаў норма выбаркі павялічылася. Характарыстыка разгортваньня сеткаю работы з гатовым адзеньнем мае супярэчныя паведамленьні ў карэспадэнтаў. У той час, калі ў некаторых акругах (Дняпросаюз і Менскае аддзяленьне) па павядамленьню галоўнай канторы БКС, маецца разьвіцьцё работы з гатовым адзеньнем, карэспандэнт па Гомельскай і Мазырскай акрузе паведамляе: „Рэалізацыя гатовага адзеньня слабая. Попыт з боку пайшчыкаў надзвычайна слабы". Разрыў паміж асартымэнтам гатовага адзеньня і попытам насельніцтва працягваў мець месца і атрымоўваў сваё выражэньне ў адсутнасьці гарнітураў і жаночых пальто сэзонных сьветлых колераў, рэзкі недахоп нагавіц і г. д.

У маі месяцы сетка пачынае разгортваць работу з галаўнымі ўбраньнямі.

Адноснае заспакаеньне вызначалася на рынку скураных тавараў па прычынах узмацненьня завозу і сэзоннага паслабленьня попыту. Рэзкі попыт, які падвысіўся на гатовы абутак задавальняўся ня толькі за кошт бягучых паступленьняў, але і за кошт захаваных у сыстэме значных запасаў. Плянавыя меркаваньні, а таксама і норма выбаркі сыстэмай выкананы са значным перавышэньнем. Попыт на трэстаўскі абутак поўнасьцю не задавальняўся. Адчуваўся востры дэфіцыт на сандаліі ў зьвязку з невыкананьнем Белсампрамсаюзам сваіх догаворных абавязкаў.

З групы бакалейных тавараў быў надзвычайна вялікі попыт на соль у мінулым м-цы, але ў працягу апошняга часу ўвайшоў у звычайную каляіну. Адгрузка павялічылася. Запасы, якія былі парушаны ў сыстэме, аднаўлены на ўстаноўленым узроўні (больш 2 х мэсячнага запасу).

Цукровы рынак пад уплывам праведзеных мерапрыемстваў рэгулюючага парадку прыкметна заспакоіўся. Па сельскай сетцы прыкмячаюцца зьявішчы адхіленьняў ад устаноўленае нормы ў бок яе падвышэньня. Недагружана за май 72 вагоны, што прывяло да памяншэньня запасаў як сыстэмы, так і цукратрэсту. У сувязі з абмежаваным водпускам цукру значна вырас попыт на кандытарскія вырабы, а асабліва на цукеркі. Нармаванае забесьпячэньне насельніцтва чаем забясьпечвалася плянавым завозам. У рыбных таварах попыт не знаходзіў поўнага задавальненьня. На мыла часамі зьяўляўся ненармальна-падвышаны попыт. У вялікім дэфіцыце была махорка, попыт на якую далёка ня быў задаволены.

На рынку гаспадарчых тавараў вялікі попыт быў на шыннае *і гатунковае* жалеза, якое было ў дэфіцыце. Сельскае насельніцтва ўзмоцнена пытала будаўнічыя матар'ялы (цэмэнт, цьвікі і г. д.), і на гэтыя тавары попыт ня быў задаволены. Па сэзонных умовах паслабеў попыт на лямпавае шкло і шкляныя вырабы. У агульным з сілікатнымі таварамі сыстэма працавала вяла.

Рынак сельгаспрадуктаў па цэламу шэрагу асноўных прадуктаў спажываньня меў вялікае напружаньне, якое некалькі ўціхла толькі ў канцы мая. Хлебны рынак у гарадох заставаўся спакойным. У памерах устаноўленых норм гарадзкое працоўнае насельніцтва хлебам задавальнялася. Напружанае становішча выказваў сельскі рынак, у сувязі з чым завоз хлебапрадуктаў перакінуўся з гораду на вёску. Цяжкасьці на мясным рынку ў красавіку і маі былі зьнішчаны. Значна пагоршылася забесьпячэньне насельніцтва малочнымі прадуктамі і яйкамі. Палепшылася забесьпячэньне насельніцтва бульбаю.

## Загатоўкі

Загатоўчая работа спажыўкаапэрацыі праходзіла пад уплывам тэндэнцый, якія вызначаліся ў сакавіку, г. зн., далейшага паслабленьня загатовак зімовых кантынгентаў і некаторага ажыўленьня на рынках сэзонных відаў сыравіны і прадуктаў. Плянавая загатоўка некаторых прадуктаў спажываньня (хлеб, масла і яйкі) у значнай ступені ацяжарваліся разрывам паміж загатоўчымі і рыначнымі цэнамі.

Як фактар соцыялёгічнага парадку трэба адзначыць узмоцненую калектыўную здачу сялянствам хлебных і другіх прадуктаў. Зьмяншэньне паступленьня памольнага збору тлумачыцца скарачэньнем памолу. Ажывілася загатоўка мяса супроць падзеньня ў папярэднім пэрыодзе. Слаба праходзіла загатоўка сьвініны. Значна вырас посул бульбы, у сувязі з чым цэны на яе зьнізіліся. Загатоўкі кароўяга масла, у параўнаньні, з сакавіком, далі падзеньне па вядомай прычыне адсутнасьці ў спажыўкаапэрацыі канцэнтраваных кармоў для прэм'яваньня здатчыкаў масла.

У агульным трэба сказаць, што спажыўкаапэрацыя ў абглядваемым пэрыодзе захавала каэфіцыенты дынамікі загатовак усяго плянавага сэктару, застаючыся на больш высокім месцы супроць адведзенага ёй плянам. З другога боку, нельга не адзначыць недавыкананьня спажыўкаапэрацыяй плянавых меркаваньняў па цэламу шэрагу кантынгентаў.

## Грашовыя справы

Некаторае зьмякчэньне грашовага напружаньня ў сакавіку атрымала сваё далейшае разьвіцьцё ў красавіку ў сувязі з паляпшэньнем гандлёвай кан'юктуры. Аднак май пад уплывам, галоўным чынам, зьніжэньня звароtаў прынёс пагоршаньне грашовага становішча ўсіх зьвенчакоў сыстэмы. Апрача гэтага, працягвалі дзейнічаць прычыны, перанесеныя з мінулых месяцаў. Бясспрэчна таксама адбілася на грашовым становішчы сыстэмы ўплата ўсімі зьвеньчакамі яе прампадатку, а таксама і перамяшчэньне сродкаў у запасны капітал і фонд доўгатэрміновага крэдытаваньня. Аднак трэба адзначыць неаднольковую ступень грашовага напружаньня ў сыстэме. У той час, калі, карэспандэнт Вітрайсаюзу паведамляе, што грашовае становішча па сетцы не паляпшаецца, карэспандэнт Гомрайсаюзу паведамляе, што грашовае становішча ў маі значна палепшылася.

## Каапэраваньне і паянакапленьне

Каапэраваньне і паянакапленьне па рабоча гарадзкой і сельскай сетцы за красавік і май месяц маюць такі выгляд:

| У ТЫСЯЧАХ (акруглёна) | Сакавік | Красавік | Май | У %% да папяр. месяца | | %% выкан. гад. задан. па 1/VI |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Красавік | Май | |
| Сельскі сэктар | | | | | | |
| Каапэравана . . . . . | 20,5 | 25,7 | 13,2 | 125,4 | 51,4 | 101,2 |
| Сабрана паявых . . . . | 260,9 | 309,6 | 222,8 | 118,7 | 72,0 | 74,9 |
| Сярэдні пай (на кап. мес.) | 7—50 | 7—69 | 7—88 | — | — | 65,3 |
| Гарадзкі сэктар (12 ЦРК) | | | | | | |
| Каапэравана . . . . . | — | 9,0 | 6,8 | — | 76,0 | 151,9 |
| Сабрана паявых . . . . | — | 95,2 | 103,6 | — | 108,9 | 61,7 |
| Сярэдні пай . . . . . . | 10—79 | 10—79 | 10—95 | — | — | 26,0 |

Такім чынам, агульныя вынікі каапэраваньня на 1 чэрвеня даюць падвышэньне гадавога заданьня як у сельскай, так і асабліва ў рабоча-гарадзкой сетцы. Паянакапленьне асабліва у адносіне да сярэдняга паю адстае ад неабходнага тэмпу для выкананьня гадавога заданьня.

## Вынікі

Падводзячы вынікі кан'юнктуры за абгледжаны пэрыод, трэба сказаць, што падзеньне зваротаў ляжала ў прычынах ня толькі паслабленьня попыту, колькі ў недастатковым посуле промтавараў і сельгаспрадуктаў для здавальненьня плацежаздольнага попыту насельніцтва.

Такім чынам, далейшае разьвіцьцё зваротаў сыстэмы застаецца ў поўнай залежнасьці ад ступені таварнага задавальненьня попыту. Па ранейшаму застаецца ў поўным ахопе незадавальненьне таварным асартымэнтам спажыўкаапэрацыі ў сэнсе неадпаведнасьці яго попыту насельніцтва. Непрыстасаванасьць некаторых груп прадукцыі мясцовай вытворчасьці ўсё яшчэ мае месца і застаецца аднэй з прычын недастатковага іх спажываньня насельніцтвам. Грашовае напружаньне сыстэмы стварылася ў выніку дзейнічаньня фактараў як аб'ектыўнага (падзеньне зваротаў, недастатковае фінансаваньне), так і суб'ектыўнага парадку (недастатковы збор паявых капіталаў, укладаў і г. д.).

Загатоўчая работа сыстэмы ў красавіку і маі дала адхіленьне ад плянаў у бок зьмяншэньня па цэламу шэрагу сэзонных кантынгентаў.

# НА МЯСЦОХ

А. С-к

## Больш увагі выдаткаваньню хлеба

*(Полаччына)*

Наша хлебнае становішча патрабуе ашчаднага выдаткаваньня хлеба гандлюючымі арганізацыямі. У гэтым напрамку адпаведныя органы давалі шмат прапаноў. Але-ж у некаторых мясцох не зьвяртаецца належнай увагі, і хлеб разбазарваецца. Вось прыклады: у Гаранскім спажывецкім таварыстве ільна-здатчыкі за здадзены лён атрымлівалі хлеб два разы за адну здачу. Характэрна, што квіткі на атрыманьне хлеба праходзілі праз рукі сельсавету і спажыўтаварыства, а рэзалюцыі накладваліся на арыгінале і адбітку.

Самі здатчыкі лёну злоўжывалі сваім правам на прэмію, атрымлівалі квіткі ад крэдытнага таварыства ў двух экзэмплярах, па адным зьяўляліся да старшыні сельсавету за рэзалюцыяй, а з другім—да сэкратара ў розныя дні, а потым таксама і ў спажывецкае таварыства—да старшыні, а з другім—да рахункавода.

Ёсьць нават выпадкі простага садзейнічаньня загатоўшчыку Полацкага крэдытнага таварыства: у квітку на хлеб паказана прыёмка лёну тропанага, а ў адбітку „сырэц"; у радзе квіткоў „лён тропаны", а ў адбітку—лён-валакно.

Шчацілаўскі сельсавет (Полацкай акругі) нават пячатку прылажыў с е л я н і н у Д ы л о, з вёскі Л і с а в а я, на квіток на тое месца, дзе зроблена з «8» кілёграмаў—«80», каб ня было магчымасьці разабраць дабаўленага пропісам «дзесяць» ды напісанага раней «восем».

Асьвейскія загатоўшчыкі часамі пісалі квіткі сялянам на хлеб на абы якіх кавалках паперы, без паказу нумару, даты квітка.

Спажывецкія таварыствы разьмяркоўваюць дазволеную норму паміж сельсаветамі, апошнія складаюць сьпісы на норму, а потым пасылаюць горы запісак таварыству з хадайнічаньнем здаволіць таго або іншага, або сьпіс некалькіх асоб. Таварыствы звычайна, каб ня быць дрэннымі у вачох насельніцтва і сельсавету, здавальняюць такія хадайніцтвы мясцовых органаў. Паміж запісак можна знайсьці, напрыклад, такія: «С п а ж ы в е ц к а м у Т а в а р ы с т в у. В ы д а ц ь т а к о м у п я ц ь к і л ё п ш а н і ч н а й м у к і п е р ш а г а г а т у н к у» і аб выдачы такому, або такім асобам у крэдыт. (Асьвея). Запазычанасьць па аднэй такой выдачы са студзеня месяца не спагнана.

Усё гэта сьведчыць аб нясур'ёзных адносінах на мясцох да выдаткаваньня хлеба, што, бязумоўна, трэба папярэдзіць як па каапэрацыйнай, таксама і савецкай галіне, у мэтах бесьперабойнага здавальненьня бядняцкіх і батрацкіх пластоў вёскі да новага ўраджаю.

Рэзкі

# Як Бярэзінскае с.-г. таварыства „дапамагае“ сампрамкаапэрацыі

Бярэзінскае с. г. т-ва, на чале якога стаіць тав. Каленкавіч, усяляк „дапамагае“ разьвіцьцю саматужнай каапэрацыі ў раёне. Вось некалькі характэрных фактаў. З доўгатэрміновай пазыкі, якую атрымала таварыства для арганізацыі рамонтных сельска гаспадарчых майстэрань, таварыства «великодушно» пабудавала для кавальскай арцелі 4 каменных сьценкі, палічыўшы кошт «майстэрні» ў 5300 руб., з растэрмінаваньнем плацяжу на 6 год па 6—9 проц. гадавых.

Арцель была арганізавана з мэтаю аб'яднаньня ў ёй усіх кавалёў Бярэзінскага раёну і стварэньня раённай сельска-гаспадарчай майстэрні, але «мядзьвежая» паслуга с.-г. таварыства, каторая за 4 каменных сьценкі атрымлівае з арцелі (у якой 5 чал.)—120 руб. у месяц (80 руб. на пакрыцьцё пазыкі і 40 р. проц.), плюс 7 проц. на жалеза, з якога вырабляюцца плугі і інш. сельска гаспадарчы інвэнтар для патрэб с.-г. каапэрацыі, плюс 7 проц. камісійных, стварыла такія умовы, што, папершае, ніхто з кавалёў адзіночак ня ідзе ў арцель, і арцель за год замест росту мае ўцечку на 2 чал. (раней было 7 членаў арцелі), мае 400—500 руб. звароту ў месяц, зарплата ў месяц складае ад 20—30 руб.

Характэрна, што с.-г. таварыства, якое зьдзірае з арцелі 3 скуры: 1) проценты па пазыках, 2) накладаньні на жалеза і 3) камісійныя за рэалізацыю гатовых вырабаў, ніякіх крокаў ня ўжывае да сапраўднага ператварэньня арцелі ў раённую сельска-гаспадарчую майстэрню, а адпушчае жалеза аднабасова і ў вялікай колькасьці прыватным саматужнікам.

Тое-ж праўленьне сельска-гаспадарчага таварыства „націснула“ на Бярэзінскае крэдытна-прамысловае таварыства, каб яно адпусьціла пазыку ў 165 руб. на год скарбніку таварыства Чарняўскаму, і гэта пры адсутнасьці выстарчальных сродкаў для крэдытаваньня беднякоў-саматужнікаў, якія атрымліваюць па 50 руб. пазыкі.

Акруговай РСІ не пашкодзіла-б пацікавіцца гэтай справай.

Бягун

# Нашы дасягненьні

Нядаўна адчыненая чайная Гомельскага ЦРК сапраўды можа быць названа культурнай чайнай.

Само памяшканьне адрамантавана, чыстае і сьветлае. Добрае і абсталяваньне. Ёсьць газэты і часопісі і куток Белдзяржвыдавецтва.

Усё гэта робіць вельмі прыемнае ўражаньне і дае працоўнаму сапраўдны культурны адпачынак.

А тое, што гэтая чайная заўсёды поўная наведвальнікамі-рабочымі, служачымі, бывае шмат і сялян, гаворыць за тое, што попыт на такія культурныя чайныя вялікі.

Мне давялося наглядаць, як рабочы з жонкаю і дзецьмі заходзіў у сваю чайную. Відаць было, што ён надзвычайна задаволены гэтым адпачынкам. Да рэчы сказаць, такія чайныя зьяўляюцца лепшым мерапрыёмствам у барацьбе з алкагалізмам.

Пажадана, каб нашы каапэрацыйныя арганізацыі, і асабліва ЦРК, якія ўступілі ў сацыялістычнае спаборніцтва, зьвярнулі асаблівую ўвагу і на гэты вучастак працы.

Рэзкі

# Справа аб дрэннай якасьці прадукцыі Менскай арцелі панчошнікаў перадаецца пракурору

Арцель панчошнікаў, якая налічвае больш 200 членаў арцелі, ня раз фігуравала на старонках мясцовай прэсы, як паказальная ў сэнсе засьмечанасьці сацыяльна-чужым элемэнтам. Цяпер можна падвесьці вынікі практычнай работы гэтых ня прывыкшых да працы арцельшчыкаў.

Трапіўшы ў арцель, дзякуючы рознага роду пратэкцыі і лёзунгу, панаваўшаму ў розумах б. кіраўнікоў БСПС, што кожны грамадзянін СССР мае права на працу, яны ўсё-ж сваім нутром адчувалі, што яны ў арцелі часова, што адпаведныя органы нарэшце іх заўважаць, і напэўне вывыцягнуць „за вушка ды на сонейка", а таму лёзунг «лаві момант» выпрацоўваць больш, якасьцю горш.

Вось гэта і прывяло да наяўнасьці за час з 1/X—28 г. па 1/V—29 г. да 25 проц. глуму.

Пытаемся, дзе-ж было кіраўніцтва арцельлю, дзе быў тэхнічны інструктаж? Адказ кепскі. Старшыня і намесьнік займаліся спрэчкамі, ніяк не маглі падзяліць паміж сабою сфэру ўплыву і кіраўніцтва ў арцелі, не заглядаючы ў цэхі па цэлых тыднях.

У выніку разгляду прычыны такога вялікага процанту глуму высьветлілася, што зусім адсутнічала тэхнічнае кіраўніцтва ва ўсіх цэхах, ня было старшага майстра ў галоўным цэху.

Рэпрызіроўка, зашыўка панчох рабілася некваліфікаванымі членамі арцелі. Ніхто не правяраў пры прыёме якасьці выпрацаваных панчох.

Аргкамісія Менскага аддзяленьня БСПС пастанавіла перадаць выяўлены матар'ял аб нядбайных адносінах да прадукцыі пракурору для прыцягненьня вінаватых да адказнасьці.

Адначасова дадзен цэлы рад паказаньняў аб паляпшэньні якасьці прадукцыі, ужываючы да асоб, што выпускаюць дрэнную якасьць, рэпрэсыўныя меры ажно да выключэньня з арцелі.

# БІБЛІАГРАФІЯ

## „Прафрух Беларусі“ орган ЦСПСБ і ЦП саюзу

### Чэрвень 1929 г., № 11

З тых артыкулаў, якія пададзены ў гэтым нумары, вылучаецца пяцігадовы плян разьвіц.ця народнае гаспадаркі і прафсаюзы. Там шмат гаворыцца аб прафэсіянальнай дысцыпліне, прадукцыйнасьці працы і інш. Далей ідзе матар'ял практычнага характару.

Абмежаваны памер часопісі адбіваецца на ўсім зьмешчаным матар'яле. Возьмем, хоць бы да прыкладу, перадавы артыкул. Аўтар здолеў сказаць толькі аб тым, як радзілася пяцігодка, а наконт задач прафсаюзаў амаль ні слова. Сказаць, што „гэтае, як і шмат іншых пытаньняў выра-шыць можна толькі пры актыўным удзеле рабочых адпаведнага прадпрыёмства“, гэта знача амаль нічога не сказаць. А між іншым і для піянэра вядома, што праводзіць у жыцьцё пяцігодку будуць працоўныя масы, аб гэтым трэба напісаць яшчэ ня раз і ня два, а больш, не разьлічваючы магчыма нават на памеры артыкулу.

Апавяданьне, якое пададзена ў літаратурным аддзеле, зусім слабенькае. Тэма шаблённая. Па нашаму, такога і зьмяшчаць было ня варта.

Н.

---

## „Жилищная кооперация“ — двухтыднёвы часопіс Усесаюзнага Савету Жыльлёвае Каапэрацыі і Цэнтрасаюзу РСФСР № 9 1929 г.

Пытаньні жыльлёвага будаўніцтва набываюць усё большае і большае значэньне. Разьвіцьцё шэрагу галін нашае гаспадаркі і выкананьне шэрагу момантаў пяцігодкі значна залежаць і ад таго, як будзе разгортвацца жыльлёвае будаўніцтва.

Перадавы артыкул у часопісі як раз і гаворыць аб гэтым. Вельмі цікавы пададзены ў часопісі матар'ял аб будаўнічых заводах. Стандартныя будынкі, пры сваёй таннасьці, амаль ніколькі ня ўступаюць іншым будынкам. Гэта значна зьнізіць жыльлёвы крызіс. Добра пададзены дыскусійны матар'ял аб дыфэрэнцыяваным паі. Адтуль можна шмат вынесьці пры правядзеньні гэтае работы ў жыцьцё. Зварочвае ўвагу на сябе больш—менш добрае тэхнічнае выданьне часопісі.

Корч.

---

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Усім спажывецкім каапэрацыйным арганізацыям БССР

Ніжэйнадрукаваныя пастановы СНК СССР абавязваюць усе каапэрацыйныя арганізацыі, у тым ліку і вясковыя спажывецкія т-вы, у месячны тэрмін завесьці працоўныя сьпісы на ўсіх сваіх супрацоўнікаў. Аб гэтым Белкаапсаюз паведамляе спажывецкія арганізацыі для належнага выкананьня. Працоўныя сьпісы вядуцца па устаноўленай форме; бляпкі іх можаце атрымаць у патрэбнай колькасьці ў акруговых інспэктароў гандлю.

Член Праўленьня БКС **Флеер**.

Юрысконсульт **Мароз**.

---

## Аб увядзеньні працоўных сьпісаў у каапэрацыйных арганізацыях

I.

29-га мая 1929 г. Савет Народных Камісараў Саюзу ССР пастанавіў:

Распаўсюдзіць дзеяньне пастановы СНК СССР ад 21-га верасьня 1926 г. аб працоўных сьпісах на ўсе каапэрацыйныя і грамадзкія арганізацыі, якія абавязаны ў месячны тэрмін завесьці працоўныя сьпісы на ўсіх сваіх супрацоўнікаў („Изв. ЦИК" 4/VI—1929 г. № 125).

II.

Пастанова СНК СССР ад 21-га верасьня 1926 г.[1]) аб працоўных сьпісах (ЗЗ СССР 1926 г. № 66 арт. 502, № 77 арт. 627 і „Изв.. ЦИК" 4/VI—1929 г. № 125).

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР пастанаўляе:

1. Усе дзяржаўныя ўстановы і прадпрыемствы (агульна-саюзнага, рэспубліканскага і мясцовага значэньня), зьмешаныя акцыйныя т-вы, а таксама каапэрацыйныя і грамадзкія арганізацыі абавязаны весьці на кожнага служачага працоўныя сьпісы.

2. У працоўныя сьпісы запісваюцца абаснаваныя на дакумантах агульныя довады аб праходзе службы як з пачатку працоўнае дзейнасьці да завядзеньня працоўнага сьпісу, так і пры далейшым праходзе службы.

3. Працоўныя сьпісы заводзяцца на кожнага служачага ў двух экзэмплярах (аснаўны і копія).

У выпадку звальненьня служачага і да паступленьня яго зноў на працу аснаўны экзэмпляр працоўнага сьпісу застаецца на месцы яго апошняе працы, служачы атрымлівае на рукі адначасова з разрахункам здымак працоўнага сьпісу. Пры паступленьні на новую службу копія працоўнага сьпісу перадаецца адміністрацыі новага месца службы самым працоўным, а аснаўны працоўны сьпіс перасылаецца адміністрацыяй папярэдняга месца службы.

Усе ўстановы, прадпрыемствы і арганізацыі, якія абавязаны весьці працоўныя сьпісы, пры прыёме служачых павінны вытрабаваць такія як ад служачых, так і з месца іх папярэдняй службы.

4. Патрабаваньні аб запаўненьні служачымі якіх-небудзь анкет, якія зьвязаны са стажам на працы ў памянёных у арт. I установах і прадпрыемствах, пасьля завядзеньня працоўных сьпісаў забараняюцца.

---

[1]) Друкуецца са зьменамі і дапаўненьнямі, унесенымі пастановаю СНК СССР ад 29/V—1929 г. („Изв. ЦИК 4. VI. 1929 г. № 125).

**Ф. Садоўскі**

# Камплектаваньне каапэрацыйнага тэхнікуму на 1929-30 нав. год

Практыка камплектаваньня каапэрацыйнага тэхнікуму за два апошнія гады з практычных працаўнікоў квапэрацыі паказала, што яна найбольш спрыяе найлепшай падрыхтоўцы кадраў каапэратараў. Гэтая практыка паказвае, што толькі такое камплектаваньне дае магчымасьць большага замацаваньня вучобы з практыкай асноўных каапэрацыйных сыстэм і паляпшае склад студэнцтва тэхнікуму.

Праўда, гэтая ўстаноўка у камплектаваньні прыводзіць да неаднастайнасьці складу студэнцтва па адукацыі. Гэта выклікала неабходнасьць пастаноўкі пытаньня аб падрыхтоўчым курсе пры тэхнікуме, што і вырашана станоўча на 1929-30 навучальны год. Гэта мае магчымасьць яшчэ больш палепшыць сацыяльны склад вучняў. Дзякуючы гэтаму, на падрыхтоўчы курс змогуць паступіць батракі, дзеці беднаты і самі бядпякі, які па эканамічных умовах не змаглі скончыць сямігодкі. Гэта-ж самае павялічыць у складзе студэнтаў тэхнікуму процант дзяцей рабочых і саміх рабочых, якія ня скончылі сямігодкі.

Гэта дасьць магчымасьць да першага асноўнага курсу падраўняць студэнтаў з тым, каб на асноўных курсах заняцца ўдасканаленьнем спэцыяльных каапэрацыйных дысцыплін.

Апрача гэтага, рэарганізацыя тэхнікуму не абмежавалася толькі адчыненьнем падрыхтоўчага курсу. Улічваючы запатрабаваньні сыстэм каапэрацыі ў спэцыяльных працаўнікох—у тавараразнаўцах, Наркамасьветы адчыняе пры тэхнікуме яшчэ тавараразнаўчае аддзяленьне, якое будзе распадацца на два асноўныя цыклі—цыкль прамысловых тавараў і цыкль тавараў сельска-гаспадарчых і сыравіны.

Падзел на аддзяленьні павінен адбівацца з другога курсу. Усё гэта павінны будуць улічыць каапэрацыйныя арганізацыі пры падыходзе да камплектаваньня тэхнікуму ў 1929-30 навучальным годзе. На 1929-30 навучальны год трэба прыняць 80 асоб, 40—на падрыхтоўчы і 40—на асноўны першы курс. Гэтыя 80 месц Наркамасьветы разьмяркоўвае так: 40 месц спажывецкай сыстэме, 35 сельска-гаспадарчай і 5 саматужна-прамысловай. На кожнае вызначанае месца каапэрацыйныя арганізацыі павінны будуць пасылаць па 2 кандытатуры, з тым каб пры прыёме мець магчымасьць лепш адабраць камандыраваных як па сацыльнаму становішчу, так і па адукацыі—па падрыхтаванасьці. Каапэрацыйныя цэнтры разьмяркоўваюць вызначаныя ім месцы па саюзах, даючы канкрэтныя паказаньні, як праводзіць адбор для пасылкі.

Зразумела, што тут павінна быць узята асноўная ўстаноўка—набраць рабочых, іх дзяцей, батракоў, сялян беднякоў, лепшых серадпякоў, а са служачых—пераважна найлепшых тых, якія ўжо працавалі на практычнай рабоце ў каапэрацыі.

У паказаньнях саюзам з боку каапцэнтру павінна быць завострана ўвага на тым, каб саюзы ў гэтым годзе зьвярнулі максымум увагі камплектаваньню, не адносіліся да гэтага фармальна і без належнай увагі.

Каапцэнтры павінны прадугледзець у сваіх паказаньнях саюзам спосабы і формы падрыхтоўкі да паступленьня ў тэхнікум вызначаных кандыдатаў з рабочых, батрацтва і беднаты з каапэрацыйнага актыву. Тэхнікум з свайго боку пойдзе гэтаму насустрэч, як абвяшчэньнем аб'ёму ведаў, якія патрэбны паступаючым, так і арганізацыяй курсаў падрыхтоўкі да паступленьня.

Пры падборы кандыдатаў у тэхнікум трэба максымум увагі зьвярнуць на накіраваньне жанчын-актывістак з батрачак і бядпячак. Трэба забясьпечыць у ліку камандыраваных нацменшасьці Беларусі.

З свайго боку каапцэнтры перш за ўсё павінны вырашыць пытаньне аб колькасьці стыпэндый, якія імі вызначаюцца для камандыраваных у тэхнікум, каб да пачатку заняткаў да канца прыёму у адносінах да камандыраваных была поўная яскравасьць са стыпэндыяй.

# Правілы прыёму ў Віцебскі каапэрацыйны тэхнікум на 1929-30 вучэбны год

1. У 1929-30 вуч. годзе ў каапэрацыйны тэхнікум будзе залічана 80 асоб: 40 на 1-шы курс і 40—на падрыхтоўчае аддзяленьне.

2. Залічвацца будуць выключна практычныя працаўнікі ў каапэрацыі па камандыроўках ад каапэрацыйных сыстэм (спажыўсаюз, акрсельсаюз, кустпрамсаюз) на блянках Наркамасьветы, якія будуць разасланы каапэрацыйным сыстэмам.

На агульных падставах будуць прымацца скончыўшыя сяміго кі, калі каапэрацыйныя ўстановы ня выканаюць разьвёрсткі.

3. Узрост камандыруемых павінен быць ня ніжэй 18 год.

4. Аб'ём ведаў паступаючым на 1-шы курс неабходна мець за поўную сямігодку, а на падрыхтоўчае аддзяленьне—за 5 груп сямігодкі.

У выключных выпадках на 1-шы курс могуць быць залічаны скончыўшыя 6 груп, а на падрыхтоўчае аддзяленьне—4 групы (перавагі сац. пахаджэньне, productivity становішча і грамадзкая праца).

У гэтым аб'ёме будуць праводзіцца іспыты па матэматыцы, грамадазнаўству і белмове.

Калі камандыраваныя кандыдаты скончылі сямігодку ў 1927, 1928 і 1929 г. г., дык яны ад іспытаў аслабаняюцца.

5. Да заяў на імя прыймовай камісіі пры каапэрацыйным тэхнікуме дакладаюцца наступныя дакуманты:

а) камандыроўка;

б) аб узросьце (мэтрыка);

в) аб адносінах да вайсковай павіннасьці (для мужчын прызыўнага ўзросту);

г) аб адукацыі;

д) мэдыцынскае пасьведчаньне аб тым, што становішча здароўя паступаючага дазваляе працаваць па выбранай ім спэцыяльнасьці;

е) анкета па форме паступаючых у тэхнікум, завераная камандыруючай арганізацыяй альбо савецкай установай ня ніжэй раённага маштабу (Р. В. К.).

Увага: Паказаныя вышэй дакуманты належыць падаваць толькі ў аўтэнтыках. Да заяў дакладаюць 2 маркі па 10 кап. для адказу.

6. Прыём заяў з 1/VII па 15-ае жніўня 1929 году.

7. Прыймовая і праверачная камісіі пры тэхнікуме будуць працаваць з 15/VIII па 20/VIII—1929 году.

**Пачатак заняткаў—1 верасьня.**

8. Мэдычны агляд будзе ў часе іспытаў.

Заўвага: Студэнцтва забясьпечваецца на 50 проц. дзярж. стып. у 20 руб. і каля 25 проц. каапэр. стыпэндыяй.

**Адміністрацыя.**

---

# Каапэрацыйныя навіны

Саюзны СНК прапанаваў ЭКАНА Саюзных рэспублік абавязаць мясцовыя выканкомы перадаць прамкаапэрацыі бязьдзейнічаючыя прадпрыемствы прамысловасьці будаўнічых матар'ялаў з мэтаю хутчэйшага іх пуску ў ход. У месячны час павінны быць вызначаны такія прадпрыемствы і распрацаваны плян хутчэйшага іх выкарыстаньня для вытворчасьці будаўнічых матар'ялаў.

Для павялічэньня таварнай масы, якая неабходна для плянавага забесьпячэньня хлебазагатоўчых і сырцовых райёнаў ВСНГ СССР высоўвае праэкт выкарыстаньня неарганізаваных саматужнікаў. Па гэтаму праэкту прамкаапэрацыя павінна пашырыць загатоўкі таварнай прадукцыі некаапэраваных саматужнікаў з шырокім ужываньнем мэтаду кантрактацыі гэтай прадукцыі.

У мэтах паскарэньня грашовага звароту і захаваньня каапэрацыйных сродкаў цэнтрасаюз заключыў з Усекабанкам і Наркампачцелем згоду аб ільготным паштовым пераводзе грошай нізавымі каапэратывамі на адрас Усекабанку ці каапэрацыйных саюзаў.

Праўленьне цэнтрасаюзу зьвярнулася ў СНК з просьбай зацьвердзіць арганізацыю усесаюзнага фонду доўгатэрміновага крэдытаваньня спажывецкай каапэрацыі. Стварэньне ўсесаюзнага фонду мае мэтай пераразьмеркаваньне сродкаў унутры спажывецкай сыстэмы. Для гэтае мэты з рэспубліканскіх фондаў павінна адлічацца ня менш 5 проц. штогодных накапленьняў у агульны саюзны фонд. У гэты-ж фонд уносіць адлічэньні ад прыбыткаў і цэнтрасаюз СССР са сваімі сэкцыямі.

# Наша кансультацыя

Члену пайшчыку. Члены праўленьня, якія парушылі свае абавязкі, адказваюць згодна ўсёй сваёй маемасьцю за ўсе страты, якія зрабілі яны таварыству. За растраты ці прысваеньне каштоўнасьцяй, якія належаць каапэратыву, асобы на пасадзе нясуць крымінальную адказнасьць па 116 арт. Крым. Кодэксу і дадаткова грамадзянскую матар'яльную адказнасьць.

1. Пытаньне. У якім парадку (агульным ці цэнтралізаваным) абкладаюцца прамысловым падаткам шматкрамавыя каапэратывы?

1. Адказ. Шматкрамавыя каапэратыўныя спажывецкія таварыствы цяпер абкладаюцца прампадаткам у агульным парадку. Пастановаю НКФ СССР прызнана неабходным устанавіць з 1929-30 г. абкладаньне ў цэнтралізаваным парадку па месцу знаходжаньня праўленьня шматкрамавага каапэратыву.

2. Пытаньне. Ці можа член пайшчык спажывецкай каапэрацыі абскардзіць у суд пастанову праўленьня аб выключэньні з членаў пайшчыкаў і ці падсудна гэтая справа?

2. Адказ. Спажывецкая каапэрацыя ў цэлым не падпарадкавана адміністрацыйным органам, і яе статут ня можа быць зьменены ведамасьцьвеным шляхам. Членства спажывецкіх каапэрацый дае пэўныя матар'яльныя выгоды. Адсюль інтарэс, які зьвязаны з выключэньнем з ліку членаў спажывецкага таварыства, зьяўляецца маёмасным інтарэсам. А таму справа аб выключэньні падлягае разгляду ў судовым парадку.

3. Пытаньне. Якія катэгорыі насельніцтва маюць права на ўступленьне ў членства ў каапэрацыйныя аб'яднаньні інвалідаў?

3. Адказ. Гэтае права маюць: а) інваліды вайны і вайсковай службы, б) асобы, якія страцілі працаздольнасьць у сувязі з актыўнай барацьбой з контр-рэвалюцыяй, в) сем'і памёршых, ці невядома дзе зьгінуўшых, г) удовы памёршых ваенна-служачых, інвалідаў вайны, а таксама асоб, якія загінулі ў барацьбе з контр-рэвалюцыяй, маючы пры сабе дзяцей, якія не дасягнулі 16-ті гадовага ўзросту, д) асобы, якія страцілі працаздольнасьць у сувязі з выкананьнем працоўнай павіннасьці, е) сьляпыя, глуханямыя, тыя, якія састаяць членамі таварыства сьляпых і глуханямых, ж) іншыя катэгорыі асоб, якія маюць права на сацыяльнае забесьпячэньне Сабезу.

---

*Рэдактар—РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ*

*Выдавец—Каапцэнтры БССР, Белсельбанк і Ўсекабанк*